# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1971
Кастрычнік-
Лістапад-
Сьнежань

Год XIX
№ 5 (128)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1970 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

Year XIX October—November—December №5 (128)

1971

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XIX КАСТРЫЧНІК—ЛІСТАПАД—СЬНЕЖАН № 5 (128)

РЭДАКЦЫЯ І АДМІНІСТРАЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»
віншуе
ДАСТОЙНАГА УЛАДЫКУ ЧЭСЛАВА,
ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ і СУРОДЗІЧАЎ-БЕЛАРУСАЎ
З ВЯЛІКІМ СЬВЯТАМ ХРЫСТОВАГА РАЖСТВА
і жадае
ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1972 ГОДУ!

*Т. П.*

# Калядныя разважаньні

Ня было і ніколі ня будзе большага здарэньня на сьвеце як Нараджэньне БОГА, Які стаўся сапраўдным Чалавекам, бо інакш якжа мог-бы нарадзіцца? Ня дзіва, што сяньня ўжо бяз мала 2.000 гадоў ад той памятнай ночы, калі першыя з усіх людзей, пастухі, даведаліся аб гэтым, а ўсё чалавецтва, — ці ведае аб гэтым ці ня ведае, — лічыць гады сваей гісторыі ад Нараджэньня Хрыста, а ў старой гісторыі — да Нараджэньня Хрыста. Ці-ж не варта разважыць і ў нашым крытычным часе — у гарачцы спрэчак Усходу з Захадам — падзеі, якія пагражаюць канцом існуючага сьвету?

Чалавецтва здаўна дамагалася і чакала, каб Сам Бог прыйшоў і выратаваў чалавека. Сьвятое Пісьмо называе гэтае чаканьне «поўняй часу»: «Калі прыйшла поўня часу, Бог паслаў Свайго Сына, які нарадзіўся ад жанчыны» (Гал. 4, 4).

Аб усім, што адносіцца да Бога, мы можам даведацца толькі ад Самога Бога, бо наш розум за слабы нават для таго, каб добра пазнаць сябе самога, а што-ж падумаць аб нязьмерна вялікім Стварыцелю? Дык толькі пры помачы Божай людзі маглі пазнаць і зразумець, як далёка адыйшлі ад свайго Стварыцеля і як неразумна сварацца між сабою, дый чалавек у нязгодзе сам з сабою! . .

Бог стварыў чалавека на Свой абраз і падабенства, каб чалавек знаходзіў шчасьце ў любові да другіх людзей. І ў Новым Запавеце мы ведаем аб Богу, што ў Сьвятой Тройцы Божыя Асобы знаходзяць поўнае шчасьце ў тым, як кожная Асоба любіць другіх: Айцец любіць Сына і Сьвятога Духа, Сын любіць Айца і Сьвятога Духа, а Сьвяты Дух любіць Айца і Сына.

Аднак-жа чалавек упарта не хацеў з такім Божым плянам згадзіцца, хоць чуў у сабе заложаную Богам патрэбу любіць іншых апрача сябе самога і хоць ня мог нават існаваць бяз помачы другіх людзей! Гэтаму Божаму голасу ў чалавеку супрацівіўся голас дзікога эгаізму, любові празьмернай сябе самога. І гэты эгаізм падзяліў чалавецтва на два варожыя абозы і блёкі, якія яшчэ і сяньня называюцца Ўсходам і Захадам. А гэтая варожасьць цягнецца з прадвечных часаў.

**
*

Нарэшце заіснавала патрэба поўнага аб'яўленьня Бога і патрэба сталага пасрэдніка між Богам і чалавекам. І пад уплывам свабоднае грэцкае думкі людзі прыходзяць да перакана违ньня, што Бог вымагае Пасрэдніка між Сабою і сьветам. І ў людзей зрадзілася надзея, што Бог уканцы ня вытрымае вялікага людзкога зла, але Сам захоча зрабіць з намі парадак і таму прыйме Сам нашую прыроду, каб яе направіць. Словам, на Ўсходзе прачувалі, што дасканалы Бог мог-бы паказаць людзям сваю дасканаласьць, але толькі ў дасканалым чалавеку. А Захад таксама ў тым часе зразумеў, што дасканалы чалавек ня можа збавіцца сам сабой, бо чалавечая прырода ня можа

даць сабе таго, чаго не мае, але толькі злучыўся з Божаю дасканаласьцью, чалавек можа атрымаць тое, што яму трэба, а чаго не хапае.

І ў гэтакім вось часе зьяўляецца Хрыстос. А хрысьціянства ёсьць аб'яўленьнем дасканалага Бога ў дасканалым Чалавеку.

Дасканалым Чалавекам ёсьць той, хто маючы паўнату сілы і энэргіі чалавечага элемэнту сам дабраахвотна паддасьць у сабе поўню чалавецтва найвышэйшаму Богу. Усход заўсёды быў падданы Богу, але падданства было пасыўнае, бо чалавечаму элемэнту не хапала сілы і энэргіі. Бо і скаціна ёсьць яшчэ больш паслушная Божай волі, аднак гэта ня ўплывае на ейнае ўзвышшэньне.

Адзін толькі народ у старадаўным сьвеце лучыў пачуцьцё сувязі з Богам з маральнай свабодай чалавека, народ Ізраіля. Гэта ня быў прыпадак, што Бог прыняў чалавечую прыроду ў Юдэі. Ад акту веры Абрагама да такога-ж акту Марыі з Назарэту ўся гісторыя Ізраэля ёсьць бязупынным кантактам з жывым Богам. І так наступіла злучэньне жывога Бога з усей чалавечай прыродай: з духоўнай душою і з матар'яльным целам. І гэтая вялікая праўда ёсьць ня толькі багаслоўскай Тайнай, але яна ёсьць ключовым вузлом гісторыі чалавецтва.

Хрыстос кажа да Ўсходу: — Дасканаласьць Бога, якога ты шукаеш, можна бачыць у злучэньні з дасканалым чалавекам. Дык прадстаўнікі ўсходняе мудрасьці прыходзяць з дарамі, каб пакланіцца Богу-Чалавеку.

Хрыстос кажа Захаду: — Чалавек, якога ты шукаеш, ня можа быць толькі чалавекам. Дасканалы чалавек — гэта Аб'яўленьне дасканалага Бога. І прадстаўнік Рыму, Понцкі Пілат, паказваючы Яго народу, сказаў: «Вось чалавек!»

Хрыстовая Царква якраз мае задачу — зрэалізаваць поўную сынтэзу ўсходняе і заходняе культуры, але гэтая задача так і астаецца дасюль ня выпаўненая.

З узгляду на гэтую задачу беларусы знаходзяцца ў вынятковым палажэньні, дакладна на граніцы між Усходам і Захадам, між Расеяй і Польшчай, як між молатам і кавадлам. У гэтай сытуацыі усё залежыць ад таго, якім матар'ялам мы акажамся. Савецкі молат, (нават без сярпа!), можа нас скрышыць на пыл, калі мы акажамся толькі шклом або гліняным гаршком. Аднак ня толькі золата ці серабро, але і звычайнае жалеза не пабаіцца трапіць пад молат, бо з пад яго можа выйсьці хацяб зручным сярпом ці касой. Адны толькі жыды могуць канкураваць з намі ў знаёмасьці таго, што дзеліць Усход ад Захаду. Бо, будучы ўсходнім народам, які перайшоў на Захад, толькі жыды маюць тую практычную веду аб Усходзе і Захадзе. А гэтая веда вельмі патрэбная, каб чалавецтва вырашыла задачу свайго жыцьця — быць добрым чалавекам і жыць з людзьмі па Божаму, а змагацца з сваім эгаізмам. Гэта справа ўжо сяньня ёсьць справай жыцьця ці сьмерці ўсяго людзтва

Дык пажадаем беларусам, каб не загубілі людзкое вартасьці ў заходняй хрысьціянскай культуры. Ня можам пазволіць, каб нас перакавалі на ўсходнія мячы для ўсходняга імпэр'ялізму. «Нам трэба свабоды, зямлі чалавеку!» Нам трэба згоды ў сваім вольным народзе і краі для карыснае працы ў вольным хрысьціянскім сьвеце, а ўсё ў тым духу, аб якім сьпявалі анёлы Народжанаму Дзіцятку. «Слава Богу на вышынах, а на зямлі мір» і сапраўднае шчасьце.

---

*а. Ф. Журня*

# З нашай мінуўшчыны

Падаём аўтэнтычны дакумант, у якім апісаны адзін з жудасных выпадкаў, якія мелі месца на Беларусі ў часе апошняе вайны. Гэта ёсьць акт мучаніцкай сьмерці ня толькі двух сьвятароў, але 700 людзей, каталікоў і праваслаўных беларусаў.

Калі-б хто з чытачоў ведаў штосьці больш аб апісаным тут здарэньні, няхай ласкава паведаміць нашую рэдакцыю.

## СЬВЕДЧАНЬНЕ ЗАКОННІЦЫ Я. Т.

аб мучаніцкай сьмерці айцоў Марыянаў, Антона Лешчэвіча і Юрага Кашыры ў Росіцы Віцебскай вобласьці.

Дня 8-га сьнежня 1964 году ў м-ку Гарэ Кальварыі пры парахвіяльным касьцеле ў сьвятліцы законніцаў Эўхарыстак, адна з іх с. Я. Т. у прысутнасьці а. Фэлікса Журні зрабіла наступныя сьведчаньні.

У часе II-ой сусьветнай вайны, калі немцы занялі падсавецкія тэрыторыі, туды прышлі працаваць айцы Марыяны з Друі,[1]) з якіх асталіся ў Росіцы да канца а. Антон Лешчэвіч[2]) і а. Юры Кашыра,[3]) а ў Замошы быў нейкі час а. Ул. Лашэўскі.[4]) Прытым яны такжа абслужвалі суседнія парахвіі на савецкіх тэрыторыях, як Дрысса, Асьвея, Бігосава.[5]

У Росіцы знайшлі вялікі касьцёл не разбураны, але нядзейны ужо праз некалькі гадоў дзеля выдаленьня адтуль ксяндза.[6] Працы было вельмі шмат і народ надта рупліва гарнуўся да рэлігіі. Ужо перад прыездам ксян-

дзоў да Росіцы хадзілі з Друі сёстры-законніцы ў тыя стараны катэхізаваць дзяцей. А калі аселі там ксяндзы, яны (сёстры) таксама прыбылі да Росіцы ў ліку дзесяці, з якіх дзьве ў Замоша,[7]) каб стала памагаць сьвятарам у душпастырскай працы.

Сама Росіца — мястэчка ў пару тысяч людзей — было тады населенае старымі, дзецьмі і падрастаючай моладзьдзю. Усіх мужчынаў у сяле веку пазабіралі партызаны.

Праца разрасталася штораз прыгажэй і абыймала ўсьцяж шырэйшую тэрыторыю. Прылучыліся да каталіцкага касьцёла таксама праваслаўныя або пазвалялі сваім дзецям прыходзіць на нашую катэхізацяю і пасьля прыступалі да сьв. Сакрамантаў. Праца ішла так каля паўтара году болей-меней у гадох 1941—1943. Пад канец гэтага пэрыяду штораз часьцей працу турбавалі і перашкаджалі ваенныя падзеі, набегі партызанаў, а таму і нямецкія досьледы, робленыя з пагрозамі расстрэлу. Шмат разоў клебанія і нашае памешканьне былі сьведкамі тых страшных сцэнаў, падчас наскокаў немцаў або партызанаў.

Нарэшце на пачатку 1943 г. над нашай працай зацяжыла вялікая небасьпека, калі дзеля штораз часьцейшых партызанскіх выпадаў на вёскі, пасёлкі і на нямецкія пасты, немцы пастанавілі вынішчыць усіх людзей і іхнія сялібы на даволі доўгім і шырокім поясе гэтае тэрыторыі. Пачалі часьцей надыходзіць весткі пра вынішчэньне вакольных вёсак з людзьмі. У месяцы лютым гэтага году, дакладнае даты я ня помню, але здарылася гэта ў нядзелю,[8]) а. А. Лешчэвіч вярнуўся з Дрыссы, дзе адпраўляў набажэнства і там даведаўся ад жандармэрыі, што Расіца таксама будзе зьнішчана і што жандармэрыя дараджвала ксяндзам стуль найскарэй выехаць. Пасьля павароту айцец быў вельмі сумны. А Юры Кашыра паехаў да Бігосава, дзе стаяла нямецкая каманда: там таксама атрымаў пацьверджаньне першае весткі і прапанову, каб ксяндзы пакінулі гэныя месцы. Абодва яны радзіліся, што рабіць, гаварылі: «Як мы можам пакінуць людзей у такую хвіліну: дзе ёсьць авечкі, там павінны быць пастыры». Гэтыя словы я сама чула. Пастанавілі астацца да канца пры людзях. Наконт нас г. зн. сясьцёр эўхарыстак з Друі, нашая гэнэральная матка ў Друі, калі даведалася, што мае спасьці на Расіцу, зараз прыслала загад, каб мы стуль вярталіся. Свой загад асноўвала на тым, што ня можа браць на сябе адказнасьці за нас перад нашымі бацькамі. Мы разважыўшы, пастанавілі астацца пры ксяндзах і на пісьме далі заяву, што мы як узрослыя можам самі за сябе вырашаць і што дабравольна астаёмся пры айцах. Ад таго часу ўжо мы трывалі спадзяючыся ўсяго.

У аўторак[9]) таго тыдня ў поўдзень прыехала да Расіцы шмат немцаў, у клебанію зьявіліся два ваенныя, адзін латыш, перакладчык і ў чорнай ваеннай форме немец, падобна кіраўнік эгзэкуцыі. Праверылі, ці няма партызанаў.

А. А. Лешчэвіч з імі гаварыў і заступаўся за сёстраў. Пасьля зараз пачалі зганяць людзей да касьцёла. Мы таксама разам з ксяндзамі пашлі туды, а клебанію заняла каманда.

У касьцеле[10]) сьпісывалі людзей. Быў напоўнены людзьмі цэлы касьцёл. Некаторыя прачувалі блізкую сьмерць і рыхталіся да яе, іншыя ня ўсьведамлялі сабе рэчаіснасьці. Пазьней сёстрам загадалі пайсьці ў клебанію. Ксяндзам пазволена было аставацца ў касьцеле і ў клебаніі.

Цэлую ноч айцы спавядалі людзей, удзялялі сьвятых сакрамантаў, карысталі з іх такжа праваслаўныя, прыймалі часамі хрост або шлюбы.

Раз за разам да нас упадаў а. Юры, апавядаючы, што дзеіцца ў касьцеле і вядома пацешаючы нас. А. Лешчэвіч, каб адвярнуць нашую ўвагу ад няпэўнае прышласьці, нас развесяляў і плянаваў нам заняткі, каб мы ня мелі часу на сумаваньне. Зразумела, што гэтае ночы ніхто ня спаў.

У сераду[11]) раніцай ізноў у мястэчку зрабіўся рух, пасьцягівалі шмат фурманак на касьцельны пляц і ад раніцы пачалі людзей групамі вывозіць з касьцёла на пакараньне сьмерцю. Здатных да працы аддзялялі, але такіх ня было шмат. Зьнішчалі людзей на месцы ў Росіцы, зганялі ў дамы, расстрэльвалі і падпальвалі бэнзынай разам з домам. З клебаніі было чутно блізка што поўгадзіны страляніну ад таго часу, калі бралі групу з касьцёла, выбухі, а пасьця ў гэным месцы зьяўляўся пажар дому.

А. Юры нас далей наведвае, перарываючы працу ў касьцеле, каб нас пацяшаць і казаў, што ўжо тую і іншую групу вывезьлі, каб спаліць. Нам загадалі варыць абед для афіцэраў. Прышоў, бо здаецца яго выклікалі, а. Лешчэвіч і падчас абеду ён ім служыў. Пасьля абеду сказалі яму запрагчы каня і паехаць з імі каб паказаў нейкі дом, каб яго захаваць ад пажару. Айцец прачуваў, што будзе, вельмі баяўся за нас і ўсьцяж прасіў каманданта каб пакінуў нас пры жыцьці.

Касьцельны хлапац запрог каня і айцец з ім паехаў. Там ужо перад домам было шмат людзей і айцец там остаўся, а хлапец прыехаў. Зараз па ягоным павароце была страляніна і ў гэным месцы быў падпалены дом. Мы былі цалкам пэўныя тады, што там таксама памірае наш айцец. У вялікім смутку мы маліліся за яго і за іншых там паміраючых. Было гэта ўжо па паўдні. Айцец Юры ў далейшым працягу працаваў у касьцеле ча-

каючы на сваю сьмерць. Вечарам яго адтуль звольнілі і замкнулі ў склепе пад клебаніяй. Праз тры гадзіны яго там мучылі дамагаючыся прызнаньняў. Вярнуўся стуль страшэнна зьмененены, сіні, замучаны і пракананы ў хуткай сьмерці. Пагаварыў з намі дый пашоў ізноў да касьцёла і там усю ноч да раніцы рыхтаваў людзей на сьмерць. Рана прынёс нам у кяшэні Найсьвяцейшы Сакрамант. Была гэта нашая ўжо апошняя Камунія сьв. ў Росіцы, прынятая ў клебаніі з рук дарагога Айца. Расказваў, што меў адну вельмі трудную споведзь, аднак і гэтую дзякаваць Богу скончыў і калі ня мог пасьпець, даваў генэральнае разграшэньне. Гэтае раніцы ён ужо забраў Найсьвяцейшы Сакрамант з касьцёла. Як учора так і сяньня і ад раніцы ў Росіцы было так страшна як пры канцы сьвету. Мястэчка гарэла, страляніна, лямант, роспач людзей, якіх выцягвалі на забіцьцё. Каля 10-ай у чацьвер[12]) загадалі а. Юру штосьці ўзяць на дарогу, пэўна было, што дзеля вока дый ехаць разам з фурманкамі. Прышоў айцец у клябанію даць нам яшчэ абсалюцыю, штосьці забраў з сабою і нам было пазволена яго адвесьці да фурманак на касьцельны пляц. Ужо пасьля ніхто з афіцэраў айцом не займаўся — ён сам астаўся з людзмі чакаючы на загад. Яшчэ разглядаўся ці каго не знайдзе знаёмага, а нас прасіў, каб мы паведамілі іншых айцоў аб яго сьмерці. Пасьля пачалі пакаваць людзей на фурманкі, дзеці не разумеючы справы сварыліся за месцы, а айцец іх супакойваў. І цэлы канвой пад экскортай жаўнераў вырушыў. Мы асталіся адны ў вялікім смутку. Мы сказалі латышу, што хочам ісьці да касьцёла і разам з людзьмі памерці, калі ўжо няма ксяндзоў. Ён сказаў гаварыць аб гэтым афіцэру ў клебаніі. Калі мы гэта зрабілі, парадзіўшыся між сабой, яны пастанавілі адвезьці нас у Друю. І было так зроблена. Адзін жаўнер, які разам са мной ехаў, быў сьведкам як разстралялі айца Юра. Акуратна яго апісаў, што ўсё згаджалася. Ягоны выгляд і рост, адзежа, гранатавы плашч і г. д. Расказваў, як напачатку ніхто не хацеў ісьці ў хату, але калі айцец першы ўвайшоў, за ім пашлі людзі і пасьля іх забілі і спалілі. Пасьля двух тыдняў прыбылі туды дзьве сястры Эўхарысткі з Друі: с. Кацярына і с. Ядвіга В. Усё мястэчка было спалена, была адна пустэча. Знайшлі тое месца, дзе забілі з людзьмі а. Юра. Сярод папялішча захаваліся ўсе целы ў розных пазыцыях, найбольш седзячы, якія, парушаныя, рассыпаліся. Грэбаючы, знайшлі адпаленую руку, напамінаючую руку а. Юра, яшчэ не прапаленую, у жмені быў ружанец, калі хацелі яго выняць, зьявіліся стражнікі і адагналі сясьцёр, якія ўцяклі і нічога ня было пазволена забраць — адразу іх адагналі.

Я сама, а таксама іншыя сёстры, якія там працавалі, мы зусім праканаными, што айцы прынялі мучаніцкую сьмерць толькі дзеля вернасьці сьвятарскаму абавязку. Мелі магчымасьць пакінуць Росіцу, націскалі іх да гэтага немцы, калі асьцерагалі перад зьнішчэньнем мястэчка. Самі пастанавілі астацца да канца пры людзях, ніякае іншае працы яны не вялі. Забілі іх пасьля немцы таму толькі, што асталіся пры людзях і каб ня было сьведкаў іхніх забойстваў. Таму што надыход партызанаў быў справай часта агульна ведамай, дык ніхто з гэтым не хаваўся. Таксама айцы з гэтым не таіліся. Хто-бы гэтаму пярэчыў, што было добра ведама немцам, таму пагражала сьмерць. У аднэй сям'і хтосьці спужаўся і запярэчыў, што былі партызаны. Уся сям'я была расстраляная, толькі двое дзяцей пасьпелі ўлезьці пад ложак і ацалелі. Ледзь да падобнага трагічнага выніку не дайшло ў нас. Наваліліся немцы на нашую клебанію і на нашае памешканьне з крыкам, ці тут былі партызаны? Адна сястра спужалася і запярэчыла. Тады зараз накіравалі вінтоўкі на яе, каб расстраляць. Яна хапіла крыжык, каб ім засланіцца, убег адначасна а. Лешчэвіч, тлумачачы, што сястра спужалася. Немцы ўжо-ж былі праканаными, што айцы ані з аднымі, ані з другімі не маюць нічога супольнага, а толькі пільнуюць сваей працы. Прыпамінаю яшчэ адно смутнае і дзіўнае здарэньне з расказу другіх. Вывялі з аднае вёскі людзей на забіцьцё. Адна жанчына, а за ёй іншыя ўхапіліся за прыдарожны крыж, усіх сьціснёных пры крыжы разстралялі. Тая ці іншая жанчына, якая знайшлася найбольш прыціснёная да крыжа і заціснутая людзьмі, ацалела ад сьмяротнага стрэлу. Калі забойцы пашлі па бэнзыну, яна вылезла з пад забітых і ўцякла ў лес.

Аб душпастырскай працы айцоў і нашай помачы ў ёй, я мушу пасьведчыць, што да зьнішчэньня Росіцы пасьпелі ўсё каталіцкае людзтва ў пяці парахвіях: Росіца, Дрысса, Замоша, Асьвея і Бігусова прыгатаваць да сьвятых Сакрамантаў, значыць, да першай споведзі і камуніі сьв. Там ужо, як і ўсюды на тых тэрыторыях, блізка хутка пасьля рэвалюцыі ксяндзоў адсунулі.

Вышэйпісанае сьведчаньне, прачытанае, прызнаю за сваё і згоднае з праўдай і як такое сьцьвярджаю сваім подпісам дый гатова для сьцьверджаньня прысягнуць.

Гара Кальварыя.

Дня 8. XII. 1964 г.

*Сястра Яніна Т.*

*

Толькі астаецца ў вышэйшым недасказана адна акалічнасьць, мяноўна, калі Айцец Юры позна вярнуўся з замкнёнага склепу, то ўжо адразу не пашоў да касьцёла, ня еў пададзенай намі вячэры, але да самае раніцы маліўся ў клебаніі, як калісьці Г. Ісус у Аліўным гародзе. І ў тым часе з намі гаварыў і нас паспавядаў. У размове і на споведзі нас пацешыў і прыгатаваў да мучаніцтва. Быў зусім пэўны, што зараз пойдзе на сьмерць і гаварыў: «Перш Айцу Лешчэвічу давалі віно і забілі, а сягодня давалі мне, каб на заўтра тое самае зрабіць мне. Вельмі раненька пашоў да касьцела, прынёс нам камунію сьв. так як я перш успамінала. Яшчэ хацела-б я дадаць адну акалічнасьць, што айцы ня толькі там увязьненых людзей абслужвалі ў касьцеле рэлігійна, падтрымлівалі іх духоўна, але таксама як маглі кармілі. Таму, што нам нельга было хадзіць да касьцёла, дык яны самі насілі з клебаніі хлеб, малако ды іншыя прадукты.

Дапаўненьне таксама як і вышэйшае сьведчаньне яшчэ раз пацьвярджаю сваім подпісам.

Вышэйшыя сьведчаньні прыняў а. Ф. Ж. М. І. С.

Гара Кальварыя,

дн. 8. XII. 1964.

с. *Я. Т.*

---

1 Перад 1-ай сусьветнай вайной у 1938 г. Айцы Марыяны беларусы былі выселеныя з Друі польскімі цывільнымі ўладамі, а іхнія месцы занялі Марыяны палякі; на чале іх быў тады а. Аўген Кулеша. Калі аднак выбухла нямецка-савецкая вайна прыбылі ў Друю а. Антон Лешчэвіч і з Расны а. Юры Кашыра, абодвы беларусы. Абодвы яны пайшлі працаваць на падсавецкія тэрыторыі ў Росіцу і ў яе ваколіцы: Замоша, Вігосава, Асьвей. Праз нейкі час былі з імі айцы Чачот, Лашэўскі і студэнт-клерык Г. Тамашэўскі, палякі. Праз цэлы час памагалі ім у душпастырскай працы друйскія законніцы Найсьвяцейшай Эўхарыстыі (Эўхарысткі).

2 *Айцец Антон Лешчэвіч, нар. 30 верасьня 1890 г.,* праз нейкі час працаваў у Харбіне, у Манджурыі. У 1938 г. ён з а. Ф. Абрантовічам прыехаў у Эўропу і хутка ўступіў у Закон Марыянаў. Адзначаўся выдатнай пабожнасьцю, сьціпласьцю, растаропнасьцю і нязвычайнай руплівасьцю ў душпастырстве. Як сьведчыць прыведзены тут дакумант, памёр ён сьмерцю мучаніка 17. II. 1943.

3 *Айцец Юры Кашыра нар. 4. IV. 1904 г. у Александрове, гміны Мёрскай.* з бацькоў Тадэуша і Марылі. У 1925 г. уступіў у навіцыят Айцоў Марыянаў у Друі. Там-жа скончыў гімназію і на нейкі час быў высланы ў Рым на вышэйшыя студыі (1930). Аднак там доўга не затрымаўся: ня мог пераносіць рымскага клімату і таму далейшыя студыі на сьвятара зрабіў у Вільні і быў пасьвячаны 20 чэрвеня 1935. Пасьля праз год часу быў супэрыёрам новапаўсталага беларускага Дому Студыяў у Вільні, наступна настаўнікам Божага Закону ў Друйскай гімназіі. У чэрвені 1938 г. разам з іншымі Айцамі Марыянамі беларусамі быў вывезены загадам Віленскага ваяводы Бацянскага з Друі у Польшчу. У чэрвені 1942 з Расьны прыехаў ізноў у Друю, а адгэтуль разам з а. Лешчэвічам вёў душпастырства ў Росіцы і ваколіцах. 18 лютага 1943 быў спалены нямецкім карным эскадронам разам з іншымі вернікамі ў той-жа Росіцы.

4 *Паводле съведчаньня клерыка Г. Тамашэўскага а. Лашэўскага* ад зусім пэўнай сьмерці ратаваў нейкі латыш, які яго перш арыштаваў і вывез на тэрыторыю Латвіі. Лашэўскі памёр у Польшчы ў 1961.

5 *Вёска ў Верхнядзьвінскім раёне, Віцебскай вобл., на рацэ Росіца. Там быў філіяльны касьцёл Росіцкай парахвіі.* У 1970 г. налічалася 413 двароў. (Глядзі: Белар. Сав. Энц., т. II, бач. 329).

6 *Касьцёл у Росіцы, прысьвячаны Сьвятой Тройцы, пабудованы 1792 г. Парахвія, якая налічвала ў 1925 г. 8.300 вернікаў, належала да* Магілёўскай дыяцэзіі, дэканат Дрысса-Себежскі. У парахвіі Росіца, якая знаходзілася цэлы час ў БССР, быў сьвятар а. Пётр Капуста да 1935 (?) г.; а пасьля яго праз пару гадоў быў яшчэ там а. Вайцеховіч. Ён прадбачыў свой арышт і замураваў у сьцяне закрыстыі келіхі, манстранцыю, залаты крыж і іншыя вартасныя прадметы культу. Усё гэта знайшлі айцы Марыяне ў 1942 г. Пасьля арыштаваньня а. Вайцеховіча касьцёл замянілі на кіно, а касьцельныя высокія гатыцкія вежы збурылі.

7 *Парахвія Замоша налічвала 3.000 вернікаў і належала таксама да Магілёўскае дыяцэзіі.* Касьцёл Сьвятога Крыжа пабудаваны ў 1779. У 1925 г. быў там яшчэ сьвятар а. Павал Меджыс.

8 *У месяцы лютым 1943 г. нядзеля выпадала 7, 14, 21, 28.* Са сьведчаньня а. Тамашэўскага і сястры Я. Т. выглядае, што «нядзеля», аб якой тут успамінаецца, выпадала 14 лютага 1943.

9 *16. II. 1943.*

10 *Касьцёл у Росіцы стаўся зборным пунктам зганяных туды людзей.*

11 *17. II. 1943.* Як вынікае з далейшага, гэта быў дзень сьмерці а. Антона Лешчэвіча.

12 *18. II. 1943. Дзень сьмерці а. Юрага Кашыры.*

*Апавяданьне сястры Я. К.* пацьвярджае такжа ўспомнены ўжо студэнт-клерык Гэнрык Тамашэўскі, які пазьней быў рукапаложаны ў сьвятары (1944), а цяпер працуе ў Бразыліі. Аб зьнішчэньні жыхарства на Беларусі шмат хто пісаў, між іншымі і Андрэй Багровіч у кніжцы: «Жыхарства Беларускае ССР у сьвятле перапісу 1959 г.», Мюнхэн 1962.

Дакладныя дадзеныя падлікі знаходзяцца ў першым томе Беларускае Савецкае Энцыкляпэдыі ў артыкуле: «Акупацыйны рэжым», бач. 210–217. Тамжа на бач. 216 сказана, што ў Росіцы зьнішчана немцамі 700 чалавек.

*а. Ф. Ж.*

# Бэатыфікацыя мучаніка з гітлероўскага лягеру

17-га кастрычніка г. г. ў Рыме, у Базыліцы сьв. Пятра адбылася вельмі ўрачыстая бэатыфікацыя МАКСЫМІЛІЯНА КОЛЬБЭ, сьвятара з закону Францішканаў: прызнаны багаслаўлёным. Згінуў ён у 1941 у адным з найбольшых лягераў, у Асьвенціме, у паўдз. Польшчы. Уславіўся ён тым, што з любові да Бога і бліжняга пайшоў на дабравольную сьмерць з голаду, каб ратаваць жыцьцё свайго суродзіча, Францішка Гаёвнічка.

М. Кольбэ адзначаўся ў жыцьці гераічнымі цнотамі, але апошні факт быў галоўнай прычынай бэатыфікацыі. Цэрэмонію бэатыфікацыі правёў сам Папа Павал VI: гэтым абазначаецца дазвол, што да такога багаслаўлёнага можна публічна маліцца і ягоны абраз быў выстаўлены ўрачыста над аўтаром Базылікі.

На ўрачыстасьці было ня менш 50 тысяч народу і на гэтае ўслаўленьне суродзіча сабралася з усяго сьвету да 5 тысяч палякаў.

У прамове Папа падкрысліў гераічную любоў мучаніка, прыводзячы словы Хрыста: «Ніхто ня мае большае любові, як той, хто кладзе сваё жыцьцё за сваіх прыяцеляў» (Ян 15,13).

Максыміліян Кольбэ адзначаўся такжа набажэнствам да Божае Маці Непарочнае і пашыраў гэтую любоў сярод бліжніх. А гэта ёсьць знак асаблівае сьвятасьці, калі хто згодна з навукаю сьв. Царквы спалучае свае малітвы і дзейнасьць аж да высокага гераізму з любові да Бога з любоўю да Найсьвяцейшае Дзевы Марыі. Кольбэ стаўся найбош верным пасьлядоўнікам Сьвятара-Хрыста, бо за Яго прыкладам пасьвяціў сваё жыцьцё за бліжняга. Прыгожы такі прыклад поўнае ахвяры станецца багацьцем і дабром ня толькі для польскага народу, з якога паходзіў Максыміліян, але і для ўсяго сьвету, які на вялізны жаль — абыякава глядзіць на прасьлед рэлігіі на Усходзе і на грахі капіталізму на Захадзе. Ці-ж то ня дзіўна і не страшна, да чаго сьвет дайшоў? — З аднаго боку бязьмернае багацьце і збытак прадуктаў, а з другога — страшэнны голад, крыўды і несправядлівасьць. А навука і тэхніка, якія павінны прычыняцца да разьвіцьця дастатку, справядлівасьці і згоды, накіраваліся да ўзаемнага збраеньня, да забруджэньня паветра і вады, што пагражае згубай усяму сьвету . . .

*

А. Максыміліян Кольбэ нарадзіўся ў 1894 3-га студня ў г. Здунская Воля блізка Лодзі. У маладых гадох паступіў у Закон Францішканаў, вышэйшыя студыі адбываў у Рыме і быў пасьвячаны на сьвятара. У 1927 заснаваў у Польшчы магутны манастыр, у якім сабралася 700 законнікаў, названы «Непокаляново»: тут стварыўся цэлы гарадок, маючы неабходныя установы, як пошта, пажарная каманда, пякарня, крама і вялізная мадэрная друкарня. Прытым будаваўся прыгожы і маестатычны касьцёл. Тут паўстаў найбольшы асяродак каталіцкае прэсы ў Польшчы: выходзіла штодзённая газэта «Малы Дзённік» — 300 тысяч эгз. і месячнік «Рыцар Непарочнай» — мільён эзг. А ў 1930 г. а. М. Кольбэ стварае падобны асяродак у гор. Нагасакі, у Японіі, праўда, у меншых памерах, цяпер аднак разьвіваецца памысна.

Яшчэ будучы студэнтам-клерыкам, Кольбэ заснаваў у Рыме згуртаваньне, «Міліцыю Непарочнай»: мэтай паставіў адраджэньне рэлігійнае — змаганьне са злом маральным пад сьцягам Найсьв. Дзевы Марыі. Гэтае згуртаваньне цяпер налічвае да 3-х мільёнаў сябраў.

Апошняя вайна захапіла яго ў Польшчы падчас самай ажыўленай дзейнасьці ў Непакалянове. Немцы арыштавалі яго ў 1939 і паслалі ў лягер у Нямеччыне, аднак стуль у наступным годзе выпусьцілі. Але ў 1941 арыштавалі зноў і памясьцілі ў лягер у гор. Асьвенціме. Гэта быў лягер найбольш жорсткага рэжыму, дзе вечна дымілі печы для зьнішчэньня людзей.

Тут згінуў а. Кольбэ ў наступных абставінах: Калі аднойчы уцякло з лягеру трое вязьняў, стража выгнала усіх з этага самага блёку на пляц; пратрымалі іх цэлы дзень у строю аж — некаторыя звальваліся з ног, а пасьля выбралі 10 чалавек, якіх кіравалі ў асобную камэру на галодну сьмерць. І вось тут сталася вялізнае дзіва: адзін з няшчасных, сурoдзіч Кольбэ, Францішак Гаёвнічак, галосна загаласіў: «Ах, мае дзеці! . . » Тады выступіў іншы вязень і аб'явіў, што пойдзе за Гаёвнічка на сьмерць: гэта быў а. Максыміліян Кольбэ. Немцы ніякіх просьбаў не спаўнялі: заўсёды дзеілі супраць волі вязьняў, а гэты раз — на дзіва — згадзіліся і Гаёвнічка паставілі ў рады, а Кольбэ далучылі да 10-ткі сьмертнікаў.

Там мучыліся голадам і паміралі ў працягу 2-х тыдняў — аж асталася 4-ы чалавекі і ў іх ліку быў Кольбэ. Тады гэтым далі сьмяротныя ўколы і ўкінулі іх ў печку, а парахно рассыпалі па полі. Так згінуў сьмерцю му-

чаніка а. М. Кольбэ дня 14-га жніўня, у вігілію Ўнебаўзяцьця Найсьвяцейшае Дзевы Марыі. Будучы ў сьмяротным бункеры, Кольбэ пацяшаў сваіх таварышаў да цярплівасьці і згоды з Божай воляю: колькі мог, ціханька сьпяваў пабожныя песьні, маліўся за калегаў і за грэшны сьвет.

Змоладу Кольбэ ня меў моцнага здароўя: хварэў на сухоты —аж дахтары прадказвалі яму хуткую сьмерць. Аднак, як ён сам расказваў, памысна выйшаў з небасьпекі і пасьля зрабіў столькі добрых справаў. Быў гэта чалавек выдатнай сьвятасьці, нявычэрпнай энэргіі, волат працы і сапраўдны «рыцар» Божае Маці! . .

⁂

У Асьвенціме нова-ўваходзячых у лягер вязьняў афіцэр стражы вітаў такім словам: «Выхаду адгэтуль няма, толькі праз комін у крэматорыі. Калі ёсьць у транспарце жыды, дык ня могуць жыць даўжэй чым два тыдні. Калі ёсьць сьвятары, дык могуць жыць адзін месяц, а рэшта — тры месяцы!»

---

# Нэкралёг



У суботу раніцай а гадз. 8.15 дня 23 кастрычніка 1971 ў шпіталі ў Барнэт пасьля цяжкой хваробы і апэрацыі на рака, агледжаны Сьвятымі Тайнамі, спакойна заснуў на векі братзаконнік Станіслаў Даджанс.

Нарадзіўся ён ў Латвіі ў вёсцы Вілкас 18 ліпня 1910. У часе апошняе вайны апынуўся разам з многімі сваімі суродзічамі латышамі ў Нямеччыне і адтуль у 1947 прыехаў на працу ў Брытанію.

Пачуўшы ў сабе прызваньне служыць Богу ў законным стане, Даджас у 1948 навязаў лучнасьць з Марыянамі ў Лёндане. Калі быў прыняты, выехаў у Рым, дзе пад кіравецтвам айца С. Шкутанса адправіў навіцыят. У 1953 зложыў вечныя шлюбы. У Законе пражыў 22 гады.

Брат С. Даджанс ,ня могучы дзеля свайго здароўя выехаць у Злучаныя Штаты ў марыянскі латыскі Дом Законны, быў пераведзены ў 1969 ґ. у беларускі Дом у Лёндане.

Тут ён у кароткім часе здабыў сабе добрае імя сярод усіх, хто толькі яго знаў. Адзначаўся ён саліднасьцю ў працы, пунктуальнасьцю і шчыраю пабожнасьцю.

На вялікі жаль хутка паважна занямог! Дня 30 верасьня г. г. адвезены ў шпіталь і 1-га кастрычніка меў апэрацыю, якая аднак не змагла ратаваць яго, бо зласьлівы рак здаўна падточваў ягонае здароўе. Амаль да самай сьмерці быў прытомны. Дня 22 кастрычніка спавядаўся і прыняў апошняе Памазаньне. А 23 кастр. памёр на паўгадзіны раней, чымся сьвятар прышоў з Сьвятымі Дарамі. Прыймаў аднак іх перад гэтым, калі толькі адведваў шпіталь каталіцкі капэлян.



За супакой душы брата Станіслава была адпраўлена Біскупам Ч. Сіповічам у саслужэньні Айцоў Я. Гэрмановіча і А. Надсона Сьв. Літургія ў капліцы Айцоў Марыянаў у Лёндане 24. X. 1971.

Паховіны адбыліся 29. X. г. г. на могілках сьв. Панкраца. Перад гэтым у капліцы Марыян Гоузэ, дзе было прывезена цела нябожчыка, адпраўлена Літургія ў лац. абрадку ў саслужэньні Айцоў Ф. Журні і Я. Сакевіча. Прыбыло нямала вернікаў, вучні школы сьв. Кірылы Тураўскага, законніцы, а. Цiртiс — латыш езуіт, марыяне палякі і інш.

На могільнік адвёз і пахаваў памёршага Бп. Ч. Сіповіч.

Брат Ст. Даджанс вельмі шмат зрабіў як для Марыян Гауз, так і для іншых беларускіх установаў, асабліва для Бібліятэкі і Музэю. Ён разумеў беларускую мову, чытаў наш часапіс. Ня дзіва, што пакінуў па сабе добрую памяць.

Вечны пакой душы ягонай!

*Я. Г.*

---

# Тарэса у Індыі

Канчаючы сваю паездку па Індыі ў 1964, Папа Павал VI, адлятаючы з Бамбэю, падараваў свой самаход аднэй беднай законьніцы. Павярнуўшыся да праваднікоў, ён сказаў: «Выяжджаючы з Індыі, я пакідаю свой самаход Тарэсе, начальніцы місіі, што памагае бедным, каб памагчы ёй самой у ейнай «Місіі любові».

Самой Маткі-Тарэсы ня было на аэрапорце. Яна ў гэтым часе была на ўскраіне Калькуты ля паміраючага старога чалавека, рукі якога былі як дзьве зламаныя палкі і твар падобны да цёмнае сажалкі, дзе няма ніякага руху. Толькі вочы ягоныя адчыняліся й пыталі, колькі яму яшчэ аставалася жыцьця на гэтым сьвеце. А матка-Тарэса гаманіла яму па бэнгальску словамі пацехі дый любові, і называла па імяні — «Аніл». А ён быў знойдзены ў прыдарожным рове. Ні ў адным шпіталі яго не прынялі! Дый ніхто ў гІтым агромністым горадзе, дзе 3.000 раёнаў урадова называюцца трушчобамі, не знайшоў часу патрымаць яго за руку, калі ён паміраў. Бо лішне шмат было ў гэтым горадзе такіх паміраючых! Тарэса знайшла яго. Яна перанесла старога ў свой прытулак для паміраючых беднякоў. За 14 гадоў такой працы ў сваей абшчыне Тарэса падабрала больш 21.000 такіх людзей., паміраючых на вуліцах і на сьмертніках Індыі.

Матка-Тарэса радзілася ў Скопльле ў Югаславіі 27 жніўня 1920 году і была дачкой альбанскага гандляра. «Як мне было 12 гадоў, Госпад мяне паклікаў», сказала яна. Падыймаючы безьліч чалавечых целаў, ейнае цела прыгнулася. Яна вяла жыцьцё, якое надрывала ейныя сілы і не давала сабе належнага адпачынку: яна засыпала ў багажных сетках вагонаў 3-яе клясы, у руху па Індыі, ствараючы дамы дзеля бедных, хворых і паміраючых. Цярпеньні тысячаў людзей адбіліся на ейным твары, бледым, як каменьні на горах Югаславіі.

«Якжа ты чуешся, цяпер, Аніл?» — спыталася Тарэса паміраючыга. Яму было цяжка... Сястра часамі змагла падабраць такіх людзей у пару. Палавіна іх папраўлялася. Але гэтага старэнькага чалавека, так доўта галоднага, ужо нельга было вярнуць да жыцьця. Ні ежа, ні лякарствы не маглі яго ўратаваць! Быў ён, як-бы замёршы, хоць і змог выгаварыць слоўца.

«Я жыў, як скаціна, а паміраю як чалавек . . . » шаптаў ён.

Тэрэса нясе ў Індыі службу белага анёла ў сары (сукенцы), які творыць цуды. І ейнай службе няма канца. Калькута для яе — горад паміраючых бедных. Вось ёй прынесьлі чалавека, якога палавіна цела зьедзена ракам: гэта яшчэ адзін з тых, якіх ня прыймаюць у шпіталі. Смурод аддаецца ад яно. Брат міласэрдзя, вычышчаючы чэрвякоў з запушчаных ранаў хворага, ня вытрымаў, у яго пачалася рвота. Матка Тарэса сама занялася гэтым хворым. «Як ты можаш вытрымаць такі дух, што ідзе ад мяне?» спытаўся хворы. «Дый гэта нічога ў параўнаньні з тым, што церпіш ты!» адказала Тарэса. А па нейкім часе хворы сказаў: «Ты — не чалавек, бо людзі так ня могуць трымацца, як ты». А уміраючы, ён сказаў: «Слава табе!» — О, не! — адказала Тарэса: — Слава такім, як ты, якія церпяць з Хрыстом! — Задача ейнага жыцьця — гэта стацца зьвяном, што лучыць чалавека з Богам. Тарэса гэта выясьняе так: «Мы бачым Хрыста ў двух постацях: на аўтары — у постаці эўхарыстычнага хлеба і ў гарадзкіх трушчобах, у церпячых людзях, якіх забываюцца іншыя людзі. Калі я ўбачу цела, зьедзенае чэрвямі, я да яго дакранаюся, як да Хрыстовага Цела. Я ў гэтае веру, як у Хрыстовае слова».

Тарэса сказала, што яна служыць і тым, якіх ня можна ратаваць ад сьмерці. «Самае страшнае ў сьмерці тое, што чалавек прымушаны яе спатыкаць адзіночкай — вечнае

сваё будучае! Гэта хвороба — больш жахлівая чым праказа або рак. Гэта — хвароба нашага веку: Быць нікому непатрэбным».

I ўспамінае Тарэса адзін тэлефон у Нью-Дэлі . . . Паведамілі яе, што нейкая жанчына знайшлася ў скрыні для сьмяцьця. «Мы прыехалі на гэтае месца і пачулі плач пад сьметнікам. Жанчына была ўся ў ранах, ейныя валасы былі аблепленыя брудам. Павезьлі мы яе да сябе. Яна плакала ўсю дарогу, а нават і тады, як яе вымылі і ўлажылі ў пасьцель. Нарэшце яна сказала: «Я плачу не таму, што паміраю, а таму, што ўсё гэта зрабіў мой сын».

Аднойчы адна з сясьцёр іхняе грамады пазваніла ёй з гораду Агры і сказала, што неабходна мецъ 50.000 рупіяў, каб залажыць прытулак для дзяцей. «У нас няма такіх грошаў» адказала Тарэса. Аднак ізноў быў тэлефон: гэта быў званок з газэты: матце-Тарэсе зьвяшчалі, што яна дастала нагароду ад Філіпінскага ураду і з гэтым ёй належыць грашовая прэмія. «Колькі?» — «50.000 рупіяў!» — «Бачу, што ёсьць Божая воля, каб стаў дзіцячы прытулак ў Атры» сказала Тарэса . . . З дзіцячых гадоў яна жадала выконваць Божу волю — *у ва ўсім.* I вось гэтая воля аткрылася і аткрываецца. Яна аткрываецца ўсім, хто яе любіць дый шукае.

*Архіяпіскап Ян С.—Ф.*

---

*а. Аляксандар Надсон.*

# Кніга Скарыны ў Капэнгагене

У чэрвені гэтага году наведаў Бібліятэку імя Францішка Скарыны ў Лёндане прафэсар Гэбрайскага ўнівэрсытэту ў Ерусаліме Мошэ Альтбаўэр. Ён паведаміў, што бачыў у Каралеўскай бібліятэцы ў Капэнгагене няведамы да гэтага часу экзэмпляр *Малой падарожнай кніжкі* Скарыны. Гэтая вестка выклікала зразумелае зацікаўленьне і кіраўніцтва Бібліятэкі ім. Францішка Скарыны пастаралася адразу дастаць мікрафільм кніжкі.

*Малая падарожная кніжка,* гэты сваеасаблівы малітаўнік для сьвецкіх людзей, належыць да віленскага перыяду дзейнасьці Скарыны. Сярод дасьледчыкаў жыцьця беларускага першадрукара, пачынаючы ад Уладзімірава, замацаваўся погляд, быццам гэтая кніга была ягоным другім — і апошнім — віленскім выданьнем пасьля *Апостала* 1525 г. Толькі зусім нядаўна, у 1959 г., расейская вучоная А. С. Зярнова, на аснове параўнаньня стану заставіц у абедзьвюх кнігах, выказала думку, што *Апостал* быў пазьнейшым выданьнем і што трэба аднесьці *Малую падарожную* кніжку да 1523—24 гадоў. Усё гэта аднак былі меркаваньні, правільнасьць якіх было немагчыма спраўдзіць пры адсутнасьці канкрэтных доказаў. *Малая падарожная кніжка* захавалася ў дрэнным стане і ва ўсіх ведамых да апошняга часу экзэмплярах не хапала *Пасхаліі,* пры дапамозе якой было б можна вызначыць год выданьня. Сам Скарына ў пасьляслоўях да розных частак кнігі нічога пра дату не гаворыць.

Капэнгагенскі экзэмпляр *Малой падарожнай кніжкі,* як і ўсе іншыя ведамыя экзэмпляры, некамплетны.[1]) З пяці разьдзелаў кнігі захаваліся толькі чатыры — *Псалтыр, Часословец, Акафісты і каноны* і *Царкоўнае сабраньне* (каляндар), — з якіх толькі першы і апошні з'яўляюцца поўнымі. Не хапае цэлага чацьвёртага разьдзелу — *Шасьцідзёньніка,* — а таксама трох апошніх лістоў са зьместам кнігі. У першай частцы *Часаслоўца* няма ліста 18 з заканчэньнем *Першага часу,* а ў другой — чатырох пачатковых лістоў з *Канонам пакаяльным.* Няма таксама першага ліста *Акафіста Багародзіцы* з гравюрай Дабравешчаньня і — як выглядае з мікрафільму — апошняй часткі Евангельля паводле Яна пасьля *Акафіста Крыжу.*

Нягледзячы аднак на сваю некамплетнасьць, капэнгагенскі экзэмпляр *Малой падарожнай кніжкі* з'яўляецца ўнікальным, бо ў ім адным захаваўся поўнасьцю апошні, каляндарны, разьдзел з *Пасхаліяй,* якую да апошняга часу лічылі загубленай. Разьдзел складаецца з 20 лістоў з асобнай пагінацыяй. На пярэднай старонцы першага ліста замешчаны ў рамках наступны загаловак:

«Последование церковнаго собърания въселетънаго от месеца сепътеврия до месеца августа по въставу Ерусалимъское церкви», Каляндар нерухомых сьвятаў (г. зв. «сьвят-

---

1) Апісаньне *Малой падарожнай кніжкі* (без *пасхаліі)* гл.: А. Коршунаў, «Кароткі каментарый да выданняў Францыска Скарыны». — У кнізе: Францыск Скарына, *Прадмовы і пасляслоўі,* Мінск, «Навука і тэхніка», 1969, сс 222—232; В. Тумаш, «Бібліяграфія скарыніяны». — У *Запісы* № 5, Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва, Мюнхэн 1970, сс. 196—197.

О пасхалі или о пасце

Потреба тому найперве ведати, кто хочеть пасхалью водить и о празницех разуметь. Празники суть двоякие, одны што не имають своего отделеного дня в осематцех, но рушаютсе водле бегу полноты марта месеця небесняго. Яко великдень или пасха, вступление на небеса Г[о]с[по]дьне. Сошествие С[вя]того Духа. И подлуг того менитсе масопуст, и Петров пост, и зачинание двох треодей, а для тых празников сложена есть паскалия, абы есмо ведали в которые дни книжных месецей и празновати имамы. Благовещение же и Георгие, и 40 мучеников и Алексие имають свои особливые дни непременны в осематцех месецей книжных, и для тых не есть сложения паскалиа.

Паскалия. ді

В лѣто з тысещ ла, круг солнцу г, луне а, Рож[е]ство Хр[и]ст[о]во в чет[вер]. Лѣт по нарожении Хр[и]ст[о]ве полторы тысещи кг, индик[т] аі. Мяса ясти ѕ недел[ь] и д дни, триодь нач[инается] ген[варя] ке. Масопуст фев[раля] и, м муч[еников] д недели посту в понеделок, Благовещ[ение] в среду ѕ недели посту. Хр[и]стиа[нская] пасха април[я] е, Георгия в чевер г неде по пас[це], вступление на небеса Г[о]с[по]дьне ді маія. Сошествие С[вя]т[а]го Духа кд маія. Петров мяс[опуст] ла маія, Петрова посту д неде[ли], Петра в понеделок.

Гибель месеця всего будеть а дня марта пол ѳ годины по полудни. Другая гибель всея луны августа ке, по полноци г годи[ны].

Лѣто преступное или висекст.

В лѣто з тысещи лв, круг сол[нцу] д, луне в, Рож[е]ство Хр[и]сто[во] в пяток. Лѣт по нарожении Хр[и]стове полторы тысещ кд, индик[т] ві, мяса ясти е недел[ь] и три дни, триодь почин[ается] ген[варя] зі, масопуста ген[варя] ла, м мучен[иков]

*«Малая падарожная кніжка» Францішка Скарыны. Пачатак пасхаліі. (паводле экзэмпляра Каралеўскай бібліятэкі ў Капэнгагене).*

цы») пачынаецца на адвароце першага ліста і канчаецца на пярэдняй старонцы трынаццатага. На адвароце трынаццатага ліста знаходзіцца прадмова да *Пасхаліі,* а далей да канца ідзе сама пасхалія на гады 1523—1543. Разьдзел канчаецца наступным пасьляслоўем, замешчаным у самым нізе на адвароце дваццатага ліста: «Доконаны суть сие вократце светци и поскалия, доктором Франциском Скориною, во славном месте виленском».

Вось пачатак *Пасхаліі* з весткамі на 1523 год:[2])

«В лѣто 7 тысещ 31, круг солнцу 3, луне 1, Рож[е]ство Хр[и]ст[о]во в чет[вер], лѣт по нарожении Хр[и]ст[о]ве полторы тысещи 23, индик[т] 11, мяса ясти 6 недел[ь] 4 дни, триодь нач[инается] ген[варя] 25, мясоп[у]ст фев[раля] 8, 40 муч[еников] 4 недели посту в понеделок, Благовещ[ение] в среду 6 недели посту, Хр[и]стиа[нская] пасха април[я] 5, Георгия в четвер 3 недели по пас[це], вступление на небеса Г[о]с[по]дьне 14 маія, сошествие Св[е]т[а]го Духа 24 маія, Петров мяс[опуст] 31 маія, Петрова посту 4 неде[ли], Петра в понеделок.

Гибель месеца всего будеть 1 дня марта пол 9 години по полудни. Другая гибель всея луны августа 25, по полноци 3 годи[ны]».

Апрача гэтага, пачынаючы ад 1524 году, Скарына падаваў спачатку, ці даны год быў высакосным («лѣто преступное или висекст»), а калі не, то каторым ён быў на парадку пасьля высакоснага.

Як відаць з вышэй прыведзенага тэксту, *Пасхалія* Скарыны была сваеасаблівым календаром, дзе чытач, побач з датамі Вялікадня і іншых рухомых сьвятаў і зьвязаных з імі пастоў, мог знайсьці весткі пра дні тыдня, ў якія ў даным годзе выпадалі некаторыя важнейшыя нерухомыя сьвяты, а таксама пра розныя астранамічныя з'явы, як зацьменьне сонца ці месяца.

Найбольш цікавыя астранамічныя весткі на 1524 год:

«Сего году не будеть гибели солнца или месеца, но будеть соштие всех седми звезд блудящих во знамени небесном в рибах, они же напотом, естли Господь Бог допустить, великое пременение царств, законов, людей и всех на земли и во водах родящихся быти знаменують, яковое ж предтым не бывало».

У 1530 годзе павінна было быць частковае зацьменьне сонца:

«Гибель всего месеца будеть октоврия 16 дня, шестое годины по полноци. Другая гибель

[2]) Словы, напісаныя ў Скарынавым тэксьце ў скарочаным выглядзе, падаюцца поўнасьцю. Даданыя часткі, якіх няма ў арыгінале, ўзяты ў квадратныя дужкі. Пры перадачы Скарынавых тэкстаў захаваны правілы прынятыя А. Коршунавым (гл. Франциск Скарына *Прадмовы і пасьляслоўі,* с. 5).

солнца, большая половина, 28 марта, пол 6 годины пред полуднем».

Для азначэньня гадоў у *Пасхаліі* Скарына ўжвае, побач з летазьлічэньнем ад нараджэньня Хрыста, традыцыйнае летазьлічэньне «ад стварэньня сьвету». Наогул ён прытрымліваецца тут традыцыйнага ўсходняга царкоўнага календара, паводле якога новы год пачынаецца не 1 студзеня, але 1 верасьня. Такім чынам Скарынаў 1523 год адказвае, паводле сёньня агульнапрынятага летазьлічэньня, перыяду ад 1 верасьня 1522 г. да 31 жніўня 1523 г.; а Каляды 1523 г., весткай пра якія пачынаецца *Пасхалія,* — Калядам 1522 г. *Малая падарожная кніжка* павінна была выйсьці з друку перад гэтай апошняй датай, бо інакш вестка пра Каляды 1522 г. была б неактуальнай. З другога боку Скарына напэўна ня выдаў яе ў 1521 г., бо тады ён замясьціў бы ў *Пасхаліі* весткі на 1522 год. Трэба таму думаць, што *Малая падарожная кніжка* была выдана ў 1522 г., хутчэй за ўсё перад 1 верасьнем, г. з. перад новым царкоўным годам.[3])

Дзякуючы знаходцы ў Капэнгагене сёньня ўжо ведамы поўны тэкст *Малой падарожнай кніжкі* і вырашана канчаткова пытаньне храналёгіі Скарынавых выданьняў. Цяпер ужо можна з упэўнасьцю сказаць, што *Малая падарожная кніжка*, а не *Апостал,* была першым выданьнем Скарыны ў Вільні. Такім чынам у біяграфіі беларускага першадрукара стала адной «белай плямай» менш.

3) Год 1522 адносіцца да цэлай кнігі. Вельмі магчыма, што некаторыя яе часткі – у прыватнасьці *Псалтыр* і *Акафісты,* – Скарына выдаў раней асобна, а пасьля злучыў іх у адно цэлае. На карысьць такога погляду гаворыць тое, што многія часткі *Малой падарожнай кніжкі* маюць свае тытульныя лісты, пасьляслоўі і незалежную пагінацыю. (Больш пра гэта гл.: А. Коршунаў, «Літаратурна-публіцыстычная спадчына Францыска Скарыны». – У кнізе: Францыск Скарына, *Прадмовы і пасьляслоўі,* с. 192).

## ПАПРАЎКІ

У рэцэнзіі А. Надсона на анталёгію беларускай паэзіі на ангельскай мове *Like Water, Like Fire,* замешчанай у папярэднім нумары *Божым шляхам*, выявіліся наступныя друкарскія памылкі:

| | Напісана: | Трэба: |
|---|---|---|
| стар. 7, стоўб 1, радок 10 | дзвесьце | дзьвесьце |
| „ „ „ 18–19 | переклады | пераклады |
| „ „ „ 23 | вельні | вельмі |
| „ 8 „ 2 „ 1 | на Gaudinas | не Gaudinas |
| „ „ „ 16 | кала | каля |

# З царкоўнага жыцьця

### ТАЙНЫ ХРОСТУ І КАНФІРМАЦЫІ.

Нядаўна Папа паведаміў сьвет, што ў хуткім часе будзе ўведзены іншы спосаб і практыка Хросту, мяноўна: Гэты Сакрамант ня будуць прыймаць адразу з малога дзіцяці, але паступова.

Спачатку дзеці каля 7-мі гадоў будуць урачыста ў касьцеле прынятыя як кандыдаты на хрысьціян — на падабенства таго, як даўней прыймалі ў катэхумэнат. Сьвятар пытае дзіця, ці яно хоча стаць хрысьціянінам? А бацькоў, ці яны на гэтае згаджуюцца? Пасьля дзеці праз пару гадоў вучацца праўдаў веры і практычна жыць па хрысьціянску. Тады ўжо, маючы каля 10-ці гадоў, такое дзіця будзе ахрышчанае. І адразу прыймае сьвятую камунію — прычасьце бяз споведзі, бо хрост адпушчае і першародны грэх і ўсе грахі асабістыя. Пасьля рыхтуюцца да споведзі, каб магчы атрымаць адпушчэньне грахоў, што здараліся пасьля хросту.

Каля 20 гадоў веку маладыя хрысьціяне змогуць прыступаць да Канфірмацыі, бо тады становяцца поўнасьцю дасьпеўшым да самастойнага жыцьця і патрабуе большае Божае ласкі і помачы.

Такі спосаб Хросту і Канфірмацыі будзе практычна ўведзены ў місыйных краях, а нават і ў хрысьціянскіх, дзе запанаваў навачасны паганізм — абыякавасьць, напрыклад, у Францыі, дзе ахрышчаныя людзі жывуць як недаверкі.

### ДВА МАРЫЙНЫЯ КАНГРЭСЫ

Югаславія мае нармальныя дыпляматычныя адносіны з Ватыканам: у Кроацыі адбыліся два марыйныя кангрэсы ў жніўні г. г. А Кроацыя — пераважна краіна каталіцкая. І-ы кангрэс быў навуковы ў гор. Загрэбе, пасьвячаны Маці Божай, а ІІ-і папулярны на тэму: «Роля Божае Маці ў сучасным сьвеце». На І-ым кангрэсе было каля 10 вучоных багасловаў, пераважна каталіцкіх, але былі прысутныя багасловы праваслаўныя, пратэстанскія і англіканскія. У супольнай дэклярацыі, падпісанай усімі багасловамі, прызналі, што культ (чэсьць) Божай Маці існуе ад пачатку хрысьціянства; а па Эфэскім

Саборы ў 431 г., на якім Дзева Марыя была аб'яўлена Маткай Боскай, чэсьць (культ) Божае Маці яшчэ больш паглыбіўся ў хрысьціянскім сьвеце. Так усё набажэнства кіруецца да Самога Хрыста, а Дзева Марыя ёсьць удзельніцай у жыцьці і цярпеньнях свайго Сына.

II-гі кангрэс закончыўся 15 жніўня пілігрымкай да Марыйнае сьвятыні недалёка Загрэбу: сабралася да 200 тысяч народу, многа духавенства, былі прысутныя праваслаўныя біскупы і духоўныя іншых вызнаньняў. У Югаславіі 50% праваслаўных, 35% каталікоў і 12% магамэтанаў.

## ПРЫВІТАНЬНЕ АД АСТРАНАЎТАЎ ПАПЕ ПАЎЛУ VI.

У часе палёту «АПОЛЛЁ 15» на месяц, які адбыўся ў пачатку жніўня г..г. астранаўты прыслалі спэцыяльнае прывітаньне ў Ватыканскае радыё, у якім яны казалі: «Мы вельмі цэнім і шчыра дзякуем Вашай Сьвятасьці за Вашыя думкі пра нас, за малітву і за найлепшыя пажаданьні! Нашае падарожжа адбываецца для дабра ўсяго чалавецтва. Таленты, якія Бог нам даў, спадзяёмся, будуць карысныя ўсім, якія нас спагадліва падтрымліваюць». У сваей прамове ў Базыліцы сьв. Пятра Папа выразіў сваё вялікае зьдзіўленьне сучаснай навукай і казаў, што падарожжы на месяц прычыняюцца да паглыбленьня веры. «Хоць кажа — цяперашні чалавек высока падняўся ў касмічным прасторы, але ніколі ня перакрочыць граніцы, якая ляжыць між Богам і чалавекам: заўсёды чалавек становіцца толькі вялікім адкрывальнікам, а Бог ёсьць Усёмагутным Творцам!»

## ЭКУМЭНІЧНЫЯ ВЕСТКІ: СУПРАЦА КАТАЛІКОЎ З ПРАТЭСТАНТАМІ.

Сусьветная Рада Цэркваў, якая мае сваё месцапрабываньне ў Генэве, інфармуе, што ў Радах парахвіяльных, эпархіяльных і краёвых з пратэстантамі супрацуюць і каталікі. Напрыклад, у Вялікай Брытаніі 75% працы абнята такой супрацай, а таксама і ў Амэрыцы. Супраца датычыць дзейнасьці харытатыўнай і грамадзкай. Сустракаюцца такжа ў супольных малітвах і на зьездах у справах адзінства Цэркваў.

## УЗГАДНЕНЬНЕ НАВУКІ АБ ЭЎХАРЫСТЫІ.

Нядаўна Мяшаная Камісія Каталіцка-Англіканская падала да ведама, што дайшла да вельмі важнага рэзультату — узгодніла навуку аб Найсьвяцейшым Сакраманце. Дасюль розніца паглядаў у гэтай галіне ёсьць вялікай перашкодай для адзінства веры. — А ў наступным годзе Камісія мае заняцца справай важнасьці сьвятарства англіканскіх духоўных, бо Каталіцкая Царква ня прызнае іхнята сьвятарства.

## КРЫЗЫС СЬВЯТАРСТВА.

Праведзеныя анкеты і даведкі ў многіх краях сьвету паказваюць, што сьвятарства ўвайшло ў цэлым сьвеце ў вялізарны крызыс. Гэтай справай спэцыяльна займаецца Сынод Біскупаў у Рыме. Аднак такі крызыс ня ёсьць адарваным зьявішчам: ён вынікае з агульнага духовага крызысу сучаснага чалавецтва. А сьвятар ёсьць дзіця сваей эпохі і перажывае падобныя цяжкасьці як і ўсе людзі. Людзтва ня ёсьць умацаванае ні ў веры, ні ў абычаях: заўсёды хістаецца, як вада ў безбярэжным акіяне. «Не самым хлебам жыве чалавек», казаў Хрыстос. І цяпер у страшным матэр'ялізьме зьяўляюцца адзнакі адраджэньня. Такім знакам быў Ватыканскі Сабор і ягоныя вынікі: імкненьне да адновы рэлігійнага жыцьця, да адзінства веры праз экумэнізм, да адновы літургічнай і інш.

Ня трэба баяцца, як вораті страшаць, што сьвятарства загіне. Бо Сам Хрыстос сказаў, даючы верхавенства Пятру: «Ты — Пётр-скала, і на гэтай скале Я пастаўлю Царкву і брамы пякельныя ня здолеюць яе: (Мацьвей 16, 18). Дык кажны вернік павінен супрацаваць з Царквою: маліцца за ўвесь грэшны сьвет, ствараць добрую атмасфэру сямейнага і грамадзкага жыцьця, у якой скарэй зродзяцца здаровыя сьвятарскія прызваньні.

## ПРОБА ПАГАДНЕНЬНЯ ХРЫСЬЦІЯН З МАРКСІСТАМІ

У Чылі ў Паўдзённай Амэрыцы год таму выбраны быў прэзыдэнтам марксіст Аллендэ. Многа каталікоў за яго галасавала ў надзеі, што з марксістамі ўдасца правесьці сацыяльныя рэформы. Нават і біскупы згадзіліся на супрацу з новым урадам — пад умовай, што уряд ушануе дэмакратычны строй і рэлігійную свабоду. Аднак хутка узьніклі цяжкасьці, як было і з Кубай. Марксісты пачалі націскаць на прэзыдэнта, каб накінуў дыктатуру камуны. Тады біскупы прыпомнілі, што было абяцана і заклікалі каталікоў не дапускаць крыўды Царкве і нарушэньня справядлівасьці і свабоды. І наагул у цэлым сьвеце, каталікі гатовы былі-б супрацаваць нават з камунай, каб тая не ламала Божага права, праўды і свабоды.

## ГЛУХАНЕМЫ МІСІЯНЭР

У Паўдзённай Афрыцы працуе малады сьвяатр глуха-немы, адзін з чатырох такіх на сьвеце. Нядаўна быў ён у Папы на аўдыенцыі і з Рыму паехаў на Міжнародную Канфэрэнцыю Глуха-немых у Ірляндыю — у г. Дублін, а стуль — у Парыж на Зьезд Сусьветнае Фэдэрацыі глуханемых. Там была гутарка аб ролі глуха-немых у разьвіцьцці сьвету. Нарэшце трапіў у Швайцарыю у г. Генэву, дзе правёў пару тыдняў у Сэ-

мінарыі для Душпастырства Глуха-Немых. Гэты сьвятар знаў добра гэбрайскую, ангельскую і лацінскую мову. Ён скончыў колледж для глуханемых у Вашынгтоне, а пальпся духоўную сэмінарыю. А цяпер працуе ў Паўдз. Афрыцы сярод глуха-немых нэграў.

Гэты дзіўны чалавек адзначаецца вялікімі здольнасьцямі пры сваім няшчасным калецтве, бо абсалютна глухі і немы! А гісторыя ягонага жыцьця ня менш цікавая, як і ягоная асоба. Называецца ён Кірыл Аксэльрод, мае больш 30-ці гадоў. Бацькі ягоныя — жыды, з Летувы. Бацька быў вывезены немцамі ў лягер на сьмерць, у Польшчу. Стуль удалося яму з аднэй жыдоўска йдзяўчынай уцячы з лягеру і, пасьля многіх цяжкіх прыгодаў, яны трапілі ў г. Ёганэсбург у Паўдз. Афрыцы. Там нарадзіўся ў іх сын, але шчасьце бацькоў было сумнае, бо сын аказаўся глуха-немым! Як падрос, аддалі яго ў спэцыяльную школу-інтэрнат для глуха-немых. Аднойчы пры наведзінах пабачылі, што сынок мае каталіцкі ражанец і моліцца да Божае Маці. Дык забралі дамоў, а ў школу прыходзіў толькі на лекцыі. Як скончыў гэтую школку, паслалі яго ў Амэрыку ў Калледж. Скончыў і калледж дый меў магчымасьць — пры вялікіх здольнасьцях — знайсьці добрае і даходнае месца службы. Аднак ён пачуў прызваньне працаваць дл янавукі глуханемых нэграў у Афрыцы і пастанавіў стаць каталіцкім сьвятаром. Бацька ўжо ня жыў, а матка — глыбока веручая, пабожная і простая жанчына — пазволіла сыну пайсьці сваёй дарогай. Ён чуецца шчасьлівым ў такой ахвярнай працы сярод нэграў, такіх глуханемых як ён сам. А тыя няшчасныя немыя палюбілі Аксэльрода і ахвотна з ім супрацоўнічаюць сярод суродзічаў.

---

## З беларускага жыцьця

**Уладыка Андрэй у Англіі.**



*Спатканьне Уладыкі Андрэя перад Багаслужбай (Лёндан).*

Ад 26 жніўня да 7 кастрычніка прабываў у Англіі Яго Дастойнасьць Архіепіскап Андрэй (Крыт), галава Беларускай Аўтакефельнай Праваслаўнай Царквы. Ён адведаў беларускія асяродкі ў Брадфордзе, Манчастары, Нотынгаме, Лёндане і Кэмбрыджы. У нядзелю 29 жніўня ў Брадфордзе падчас сьвятой Літургіі Уладыка Андрэй рукапалажыў у дыякана сп. Янку Пякарскага, а тыдзень пазьней, 4 верасьня, у Манчастар узьвёў яго ў сан сьвятара.

У Лёндане дастойны госьць адведаў Марыян Гауз, Школу сьв. Кірылы Тураўскага і Бібліятэку і Музэй імя Францішка Скарыны. У нядзелю 26 верасьня ён служыў сьв. Літургію ў саслужэньні з аа. Я. Абабуркам і Я. Пякарскім, а ў аўторак 28 верасьня у Беларускім Доме меў даклад для лёнданскай беларускай калёніі.

Уладыка Андрэй нарадзіўся ў 1901 годзе ў вёсцы Мархачоўшчына каля Стоўбцаў. У часе

апошняй вайны ён трапіў у Нямеччыну, а адтуль — у Англію. Там, 20 чэрвеня 1950 г., ён быў рукапаложаны ў сьвятара Архіепіскапам Васілём. У 1961 годзе выехаў у Злучаныя Штаты Амэрыкі, дзе быў настаяцелем прыходу БАПЦ у Кліўлендзе. 15 лютага 1968 г. ён атрымаў епіскапскую хіратонію. Пасьля сьмерці Архіепіскапа Васіля ў чэрвені 1970 г. Уладыка Андрэй займаў становішча Сакратара Сьвяшчэннага Сабору Епіскапаў БАПЦ, а ад кастрычніка гэтага году, пасьля сьмерці Архіепіскапа Сяргея, з'яўляецца Галавой БАПЦ.



*Уладыка Андрэй і Уладыка Чэслаў на фоне Беларускай Бібліятэкі (Лёндан).*

РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ СЬВЯТАРОЎ.

У часе ад 4 да 8 кастрычніка ў кармэлітанскім манастыры ў Эйльсфорд адбыліся гадавыя рэкалекцыі для каталіцкіх душпастыраў, якія працуюць сярод эмігрантаў розных нацыянальнасьцяў у Англіі. Сярод удзельнікаў былі гішпанцы, немцы, партугальцы, італьянцы, літоўцы, беларусы, чэхі, харваты, славэнцы, славакі, а таксама сакратар Камітэту ангельскай іерархіі для спраў іміграцыі, пралат А. Рывэрс. Кіраваў рэкалекцыямі Я. Д. Уладыка Чэслаў Сіповіч, Апостальскі Візытатар Беларусаў.

ЖУРНАЛ БЕЛАРУСКІХ СТУДЫЯЎ.

Выйшаў з друку і пасту́піў у продаж № 6 англамоўнага **Журналу беларускіх студыяў,** за 1970 год. Зьмест журналу наступны: Г. М. Мэрэдыт—Оуэнс і А. Надсон, **Беларускія татары і іхнія пісьмовыя творы.** Ч. Сіповіч, **Мінская дыяцэзія, яе паўстаньне, тэрыторыя і іерархія;** Г. Піхура, **Тэксты і напевы «падобных» Супрасьльскага ірмалогія 1601 г.** Апрача гэтага ў журнале знаходзіцца багаты аддзел рэцэнзіяў і хроніка з беларускага жыцьця.

ПОСЬПЕХІ БЕЛАРУСКІХ ВУЧНЯЎ.

Вучні Школы сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане Віктар Тур і Альгерд Абрамчык здалі пасьпяхова ў чэрвені гэтага году матуральныя іспыты з беларускай мовы на Лёнданскім унівэрсытэце. Віктар Тур, які з'яўляецца вучнем Школы сьв. Кірылы ад 1962 г., рыхтуецца цяпер да вышэйшых іспытаў з беларускай мовы ў Інстытуце Лінгвістаў.

*

**Максім Гарэцкі, Дзьве душы, Вільня 1919, бач. 174—176.**

Яму падабаўся мотыў «інтэрнацыянала», падабалася пяяньне, пабуджаў той клум, што быў на вуліцы, пабуджаў у ім сілы і некуды клікаў, і ён з прыкметнай жывейшасьцю сказаў дзяўчыне:

— Што б там ня было, а мне надта падабаецца музыка «інтэрнацыянала».

Пачуў, як паволі наплывае незьясьнёны сорам за словы, «што-б там ня было», і дадаў:

— Прыгожая музыка, праўда?

— Ага, прыгожая . . .

Яна ня ведала напэўна, як разумець словы, «што-б там ня было», але палічыла іх за яго супярэчнасьць з бальшавіцкімі крывавымі учынкамі і наўмысьля сказала падумаўшы:

— Прыгожы мотыў «інтэрнацыянала», але пакуль ён ня пабуджае ў маёй душы уяўленьняў гора або радасьці абыякой «інтэрнацыянальнай» грамады людзей, пакуль такой грамады сярод нацый на зямным клубку я ня відзела й ня

знаю, — патуль мне больш чаго кажаць мотыў нашай мужыцкай беларускай марсэльезы, з мотывам каторай мне ўяўляецца бязконцы, цярнёвы, крывавы шлях к інтэрнацыяналу майго няшчаснага народа...

Памаўчаўшы і трошку спакайней, але з яшчэ вялікшай тугай у голасе дзяўчына казала далей:

— Праўда, мне і з тым і з тым мотывам аднолькава ўяўляецца тое трагічнае і нялепае для нас, адраджоных беларусаў, **што чужыя для нас людзі, не заўважаючы на сабе яшчэ ня ськінутай імі сваей нацянальнай прапітанасьці, прыйшлі да нас з інтэрнацыяналам толькі на вуснах, з яго толькі фікцыяй у сваіх мазгох, і з фанатычнай безміласэрнасьцю узяліся рабіць з беларускай нацыі толькі гной на градкі для ўзрашчываньня сваей фікцыі інтэрнацыянала. О, будзь яны прокляты! — узварушоным голасам, з горам крыкнула яна. — Яны хочуць зрабіць адзнакі сваей нацыянальнасьці інтэрнацыяналам для нас, — дык дзякуй за ласку...** Можа трапім увайсьці ў інтэрнацыянал як роўныя з усімі, бяз гэтай дадатковай формы разьвіцьця!

— Іраіда Аўгенаўна! Навошта-ж прыймаць усё так блізка к серцу. Мне здаецца, што ўсё няшчасьце тут ад разлада тэорыі і практыкі. Бо, скажыце, калі ласка: тэорыя комунізма дазваляе, каб маскоўскія ці якія іншыя комуністы гвалтам абмаскалівалі беларусаў? Тэорыя інтэрнацыянала вінавата ў тым, што беларускім народам кіруюць цяпер бальшавіцкія комісары ўсякіх нацый, апрача беларускай? Ці яна вінавата, што ў нашым знамянітым **Облiскомзапе** ёсьць армяне, латышы, жыды, палякі, маскоўцы, але няма нас, беларусаў? Што провінцыя мае ць толькі такіх кульгавых беларусаў, як гэты Гаршчок?

— Можа пойдзем абедаць? — паспыталася у яго Іра.

Ён усьміхнуўся, змоўк і адказаў, што «з прыемнасьцю».

Калі схадзілі па лесьвіцы Іра прадэклямавала пачатак марсэльезы:

Адвеку мы спалі і нас разбудзілі,
Сказалі, што трэба рабіць,
Што трэба свабоды, землі чалавеку,
Што трэба зладзееў пабіць...

І сказала патроху адпускаючысь у злосьці:

— Я лічу аднакава зладзеямі як тых, што даюць замест хлеба камень, як камень, так і тых, што даюць яго пад відам хлеба. І аднакава пабіла-б іх, ці яны — разлад тэорыі і практыкі, ці яны — простая сваволя.

---

# Памажы вам, Божа

У садзе, між зелені яблынь, грушаў, маліньніку й сакавітай, пышнай гародніны стаіць шэрая, мэтры з чатыры вышыні ды мо два з паловаю ўдаўжкі і ўшыркі будка. На ёй напісана: «Пчаліная хатка», калі-б хто не спасьцярог сьпераду й па бакох лётак ды руплівых пчолак... Навокал «хаткі» больш вульлёў. Сонца зірнеўсміхнецца праз густаватыя хмары, якія марасяць зьверху дробным густым дожджыкам. Побач, за густымі прысадамі, імкліва грукаціць цягнік лёнданскае падзямелькі.

— Гэта-ж айцец Леў змайстраваў гэтую пчаліную хатку, — тлумачыць мне Ўладыка Часлаў. Ен паказвае мне «хутар» айцоў Мар'янаў. Дваццаць чатыры гады назад пакінуў я гэту зямлю, што на кароткі час дала мне пасьля вайны прытулак. І ці-ж мог марыць тады, што пры наступных наведзінах яе гасьцінна адчыняць мне дзьверы дбайлівыя й працавітыя сьвятары, каторыя бы тыя жыхары «пчалінае хаткі» па макулінцы зьбіраюць скарбы ў беларускі музэй і бібліятэку, вывучаюць іх, пішуць, на помач клічуць сваіх і чужых?

— А дзе-ж айцец Леў цяперака? — пытаюся.

— У Ватыкане, — адказвае Ўладыка. — Мусіў пераняць радыёпраграмы. Айцец Татарыновіч ужо ня мае сілаў, а пяць разоў на тыдзень ды бязь ніякае помачы зьнікуль, як гэта звычайна ў нас, беларусаў, ня лёгка...

Але ледзь-ледзь заўважны цень крыўды ў голасе на тое «звычайна ў нас беларусаў» зноў замяняе гаспадарская руплівасьць і задаволенасьць, калі аглядаем пышна ўзбуйнеўшае варыва. І голас гэты нагадвае мне той далёкі, родны, бацькаўскі, што некалі гучэў, здаецца, стагодзьдзе назад на зямлі, сасьледжанай мною басанож...

— А гэты во кавалак то не наш, але рэнтуем яго, — тлумачыць Ўладыка, набліжаючыся да чыгункі. — Гэта-во вогнішча на Купальле палілі.

Пасярод зялёнай, густа аброслай дрэвамі ўпадзіны ляжаць на колькі разоў прамокшым ужо папялішчы недагарэўшыя кавалкі дрэва.

І ў пасецы, садзе-агародзе, у суцэльнай сакавітай зелені гэтай лёгка ўявіў-бы сабе наш суродзіч, што ён на бацькаўшчыне, калі-б не затарахцеў зноў побач гэны падзямельны, што ў Фінчлей выпаўз наверх, лёнданскі цягнік.

У абшырным школьным пакоі сіратліва чакаюць на дзетак лаўкі. Ужо незадоўга вернуцца яны ў беларускую школу. Мо пакуль той час прыбяжыць, карпатлівыя айцы Мар'янскае

каленіі больш сілаў бібліятэцы й музэю змогуць аддаць.

Твар гаспадара, што тлумачыў пра «пчалінную хатку» распрамяняецца, калі паказвае ў музэі таўстую копію Карану, пісаную некалі беларускімі татарамі арабскімі літарамі па арабску й пабеларуску.

— Навет Брытанскі Музэй ня мае гэтай кнігі. Цяпер айцец Надсан — ён у нас адзіны што паарабску чытае —студыюе яе, — тлумачыць мне Ўладыка.

Між экспанатаў сьціплага музэю ёсьць такія, што іх нідзе ня купіш і зусім дарэчы трэба нам ганарыцца. Патрэба-ж нацыянальнага музэю й бібліятэкі нам ужо дзясяткамі гадоў назаляла. Удома скарбы нашы раскралі чужнікі, а на эміграцыі гадамі травілі наша здаровае нацыянальнае нутро недарослыя палітыканы . . .

Аглядаем бібліятэку. Ўладыка Часлаў інфармуе мяне, неасьведамленага, што патрэбна, каб быў трывалы шпень кажнае паважнае бібліятэкі. Гартае новы інтэрнацыянальны каталёг.

— Во паглядзіце, што я вам хацеў паказаць: энцыкляпэдыя Брокгаўза. Ёсьцека. Але цана! Чатыры тысячы дзьвесьце ўсходненямецкіх марак.

Пачынаем пералічваць і сума даходзіць нейдзе да тысячы даляраў.

— Гэта ёсьць старая й абсалютна неабходная для нашых навуковых досьледаў энцыкляпэдыя. Толькі ў ён знойдзеш імёны, прозьвішчы, факты перадусім з царска-расейскага пэрыяду, якіх няма ў ніводнай іншай энцыкляпэдыі. I купіць яе трэба было-б неадкладна, бо яе можа ня быць на рынку гадамі цэлымі. Ну а купі-ж, калі такія грошы . . .

Іншым разам прывезьлі кнігі зь пераплётні і Ўладыка Часлаў паказвае тры таўстыя кнігі.

— Вы-ж пэўня чулі пра Сямяшку? Вось паглядзіце: выданьне Пецярбускай Акадэміі Навук, увесь камплет ягоных пісьмаў і дакумантаў. I мы павінны быць выдаўцом вельмі ўдзячныя, што выдалі іх бязь ніякае зьмены. Па іх можна добра прасьлядзіць якім чынам гэты чалавек і ягоныя гаспадары ліквідавалі беларускую веру. I гэтыя кнігі толькі ў нас, іх навет у Брытанскім Музэі няма.

Я ня пытаюся Ўладыку дзе, якім чынам ці за якую цану дасталі. Калі патрэбна было-б, сам сказаў-бы. Адылі зь вялікай ахвотай расказвае Ўладыка пра людзей, што карыстаюцца ужо награмаджанымі скарбамі, пра прафэсара зь Ізраэлю, Палякаў, Украінцаў, Англічанаў, пра кантакты, пра будучыню . . .

Сустракаю сп-ра Пікарду, мясцовага разважлівага, можна сказаць «штатнага» працаўніка маленькай Беларусі ў Фінчлей. Пасьля фармальнасьцяў знаёмства гутарка пераходзіць на беларускую царкоўную музыку, якой ён ужо шмат займаўся, пра ягонае падарожжа ў Кіеў, дзе на тэму гэнай музыкі ён у бібліятэцы перапісаў цэлую кнігу.

Спадар Пікарда зусім добра валодае беларускай мовай і адно часамі па сынтаксе ды крыху вымушаным вымаўленьні спасьцеражэш, што ён не беларус. Апавядае мне пра дакуманты, якія яму ўдалося нядаўна выкапаць у архівах брытанскага Замежнага Міністэрства пра намаганьні Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі здабыць прызнаньне. Факты, няведамыя навет бальшыні тых з нас, што даўно падпрагліся ў беларускі вызвольны рух.

— Трэба вось і пра гэта напісаць у журнал, — гаворыць спадар Пікарда, маючы наўвеце «Журнал оф Белараш'н Стадыс».

— А як-жа з доступам у гэныя архівы міністэрства? — пытаюся.

— Ніякае праблемы, — адказвае сп-р Пікарда. — Адно папрасіць.

I набягаеж думка, што гэтак-жа пэўна чакаюць беларускіх навукоўцаў архівы шматлікіх іншых сталіцаў. Калі ласка во, бяры, шукай, распрацоўвай. Няма каму. А чаму? Мо лепш спытацца ці аднаго з тых, што й сяньня яшчэ марнатравяць час і грошы на будаваньне сваіх лёкальных загарадак або ўжо рыхтуюць сабе помнікі. А тымчасам калі мы не дакапаемся й не распрацуем нам сяньня лёгка даступных матар'ялаў на ўжытак, каб пазналі сваю гісторыю дый пазналі нас чужынцы, дык загарадкі й праектаваныя помнікі ганьбай нам некалі стануць . . .

Гасьцяваў я сёлета ў айцоў Мар'янаў тыдзень.

Тры разы на дзень да даўтога стала на пасілак зьбіраюцца жыхары Мар'янскага Дому й дамоў з другога боку вуліцы, дзе месьціцца бібліятэка й музэй Скарыны, школа, інтэрнат і кватэры. Перад пасілкамі — супольная малітва. Малітва не на паказ, не дэманстрацыйная, не для чужога вуха. Малітва нагадвае мне тую шчырую, дзіцячую, без найменшае макулінкі сумлеваў у Адзінага й Справядлівага. У гэтай працавітай сямейцы ёсьць і гаротнікі, якіх бязбожная рука па аграмадным бяздольным сусьвеце кідала, і малодшыя, што адно цяпер у навуковае «пер'е абрастаюць», і настаўнікі дый і тыя, што ня жывуць тут, адылі не языком а грашмі й матар'яламі памагаюць. I каб іх спорыла больш. Дагэтуль, на вялікі жаль, сам'я айцоў Мар'янаў, па характары сваей працы ў нас адзіная. А пры большым зразуменьні й падтрымцы колькі магло-б быць такіх ці падобных. Будзем-жа спадзявацца, што прыклад іхны будзе спанукай для шматлікіх з нас.

Тымчасам, Памажы Вам Божа!

*К. Акула*

## *Пішуць да нас*

ПОЛЬШЧА—БЕЛАСТОК: 11 верасьня вярнуўся я з вялікае падарожжы. І, дзякаваць Богу і Ягонае Найсьвяцейшае Маці, усё прайшло вельмі памысна. Толькі ў паваротнай дарозе згубіў ці праваранiў недзе грошы, як ехаў самакатам. Цяпер працы маю досыць, але пры недахопе грошаў пачуцьце маё і сям'і ня дужа вясёлае. Ці атрымалі Вы кніжкі, высланыя з Масквы? А ў Віцэбску не знайшлося больш такога цікавага.

Калі на бацькаўшчыне гутараць па расейску ў гарадах, дык у Летуве ўсе людцы — у сваей мове, значыць, аджывае сьведамасьць і гэта чуваць і відаць. Падобна і на Украіне. Магу аднак сказаць, што на Беларусі людзі жывуць лепш, чым два годы таму назад. З Мёраў да нас двойчы ў дзень ходзіць аўтабус, хаця дарогі вымагаюць добрай мадэрнізацыі. А самыя Мёры — 8 тысяч і ўжо горад, а вуліцы — асфальт і нямала новых установаў. У Ідоўце бачым цудоўны абраз Божае Маці з Друйскага касьцёла, падобны да Вострабрамскага дый абраз Сьвятога Роха і кажуць, што гэта — Мурыллі. А вучоныя з Менска запісалі яго да музэю. Уцалеў таксама і друйскі вялікі крыж, які быў над аўтаром дый нейкія дробныя памяткі. А. Заяц моліцца ў Ідоўце і дабудаваў сабе пакойчык да клебаніі.

Памаліцеся за нас усіх! На нашым магільніку яшчэ стаіць капліца, астаткі касьцёла сьв. Роха і памятнікі быўшага дзісьненскага старасты, якія маюць больш 120 гадоў.

А знаёмыя Вам кланяюцца, хаця ўжо добра пастарэлі, але помняць Вас і вашыя навукі.

*Паўлюк Бывалы*

*

НЬЮ ЁРК: Высылаю Вам на «Божым Шляхам» $ 10.00. Ведаю, што гэта ня шмат, але нашыя людзі не адзначаюцца ахвярнасьцю і ахвотай плаціць грошы. Прашу Вас перадаць маю шчырую падзяку а. Ф. Журні за прысланы мне каталёг выдадзены да урачыстага адчыненьня Бібліятэкі і Музэю, а таксама яшчэ раз хачу Вам падзякаваць за маркі. Гэта ўсё вельмі цэнныя для мяне памяткі.

А грошы ад сп. І. Г.-а $ 6.00 і ад сп. Я. З-ка $ 4.00.

Як чуецеся Вы, як здароў'е і праца?

У Мюнхэне адыйшоў у вечнасьць яшчэ адзін шчыры Беларус, прыяцель і зямляк а. Татарыновіча — сьв. Пам. сп. Кандыбовіч.

На паховіны прыехалі сп. Адамовіч і а. П. Татарыновіч.

Ёсьць і добрыя навіны: дачка сп-ва Г-аў скончыла каледж, вучыцца далей і адначасна вечарамі працуе: чытае лекцыі, якія слухае 75 студэнтаў. (І добра гаворыць па беларуску! Прып. рэдакцыі).

Жыцьце ў Нью Ёрку робіцца ўсё больш складаным, расьце бандытызм і таму людзі стараюцца вечарамі ня выходзіць з хаты. Не беднага сп. Ш., які пачынае працу а гадз. 5-ай раніцы, ужо тры разы нападалі і апошні раз з пісталетам!

*Я. К.*

*

ШТАТ Нью Ёрк.: Чытаючы ў «Божым Шляхам» пра аткрыцьцё ў Лёндане «Беларускае Бібліятэкі і Музэю» аж сэрца радавалася з такога вартаснага помніка нашага цэнтру і культуры за мяжой; але калі прачытаў прыход-расход куплі такога гістарычнага дому, дык гледзячы на лічбу 1.825 хунтаў, што, як рэдактар «Б. Шляхам» хваліцца, было сабрана ад беларусаў цэлага сьвету, дык сорамна стала быць беларусам! А ёсьць-жа і ў нас людзі, што пакуплялі багатыя дамы і маюць у банках наскладаных, што (пакуль пойдуць скварыцца ў крэматорыях) ім хапіла-б пражыць тры старасьці, дый яшчэ уздыхаюць, бо ім і таго мала!..

Дык жадаю памыснасьці ў разьвіцьці Бібліятэкі-Музэю, а Суродзічаў прашу, каб прачхнуліся з летаргу і сну і памаглі найхутчэй сплаціць доўг за гэты, як кажуць, «ц у д» беларускай культуры. Далучаю $ 10.00 на кніжку «Беларускія Б а й к і», што ўжо паслана ў друкарню. І паведамляю, што прабыў усё лета ў шпіталі і толькі цяпер вярнуўся.

*Б. П-і.*

*

АЎСТРАЛІЯ—Вэст: Дарагая Рэдакцыя! Даўненька пісаў да Вас. Усё маё жыцьцё зьвязанае з гарачай парою: работа з пшчоламі, бо як не дагледзіш цяпер, то й ня будзе чаго зьбіраць салодзенькі мядок. Калі маеце намер нас адведаць, дык мяркуйце на Каляды (нашае лета): тады хоць пагрэецеся пад нашым сонейкам, якога там у Вас ня дужа шмат!

Хаця ўжо Каляды не за гарамі, а ўсё-ж сёлета цяпла не маем. Бывалі гады, калі ўжо ў гэты час дапякала гарачыня, але ў гэтую часіну холад дый льюць дажджы, (хоць гэта і памысна для фармараў); учора ліў як з вядра цэлую ноч і наліло два інчы, а ў іншых месцах граду насыпала з гарэх вялічынёю! Кажны вечар палім у печы да поўначы, бо холадна спаць.

Сяньня атрымаў ад брата ліст, даволі характэрны дый нямала з яго прачытаў «між радкоў». Можа зможаце выкарыстаць у часапісе? Вось вынятці:

— Здароў будзь, Брат і Жонка, і Дзеці дый Унук! Пісьмо тваё дастаў досыць часу, але ад-

пісваю, ад'яжджаючы на зімовую кватэру. Чыталі мы твой ліст і вельмі сьмяяліся дый успаміналі твае штучкі і шмат чаго другога з твайго жыцьця. Пэўна, што і мне юрыдычна не забаронена тебе пісаць, але фактычна лепш ня пісаць...

Чаму ты здрадзіў айчыну? І чым цябе скрыўдзіла Савецкая ўлада? Дык вось цяпер і прападай на чужой старане! Вазьмі тое, што твой старшы брат зрабіў: да Бэрліна дайшоў, праўда, быў ранены, але вярнуўся дамоў да сваей сям'і. А тое, што ён згінуў, дык у гэтым вінаваты ён сам: ня трэба было напівацца да атручэньня!

А Ты каго пашоў бараніць? Фашызм, капіталізм? Дык і атрымаў паводле сваіх заслугаў! Бо і тыя, якія не захацелі здрадзіць сваей радзімы, усе вярнуліся дамоў і цяпер жывуць, працуюць.

Тут дзяржава памагае людзям, якія баранілі сваю радзіму: дом свой уласны, дапаможная гаспадарка, гарод, сад, скаціна. Каня табе ня трэба; а што трэба вывезьці, калгас дае. Адна неразвязаная праблема — гэта падрыхтаваць корму для каровы. У каго ёсьць мужчыны, таму лягчэй, але адзінокай жанчыне цяжкавата.

Ты цяпер сваю Юрздыку не пазнаў-бы. Ледзь ня пры кажнай хаце студня, а з рэчкі цяпер ваду не бяруць. — Адным словам жыцьця мы дачакаліся прыемнага...

Дальш аб маім жыцьці асабістым. — 1951 я зышоўся жыць «на павер» з аднэй маладой асобай: радзіўся ў нас сын у 1952, так што фактычна ў мяне дзьве жонкі, — адна ў горадзе, другая ў вёсцы. Дык вось я кажны год прыяжджаю на лета ў вёску адпачыць. Між іншым скажу, што мае жонкі вельмі дружаць між сабою, а гэта рэдкая зьява. Нават у 1969 прыяжджала дачка і ўнучка і жылі тут усё лета. Вось я цябе — праз пісьмо — пазнаёмлю з ёю. Ты ёй можаш пісаць часта: яна добра пісьменная, чытае лацінку. Заўсёды чытае твае лісты. Яна табе апіша падрабязна пра жыцьцё і ўсе навінкі. А калі прышлеш ёй пасылку, дык будзе вельмі рада. Вось і Галя купіла сабе жалезнае ложка з матрацам... (Гэта ягоная другая жонка!)... — Далей буду рабіць свае зацемкі, бо шмат што мне ведама больш, чым Рэдакцыі і Чытачом.

Брат піша мне: «Прападай на чужой старане!» Бо ў іх «усе добра, усяго поўна, жывуць шчасьліва»... А тымчасам я не прапаў, а пасылкі ім пасылаю, якіх увесь час просяць, — то для аднэй, то для другой жонкі. Нібыта пры кажнай хаце студня, а сам калісь мне пісаў, што студня на нашым дварэ завалілася, то братава ходзіць да агульнае студні; дык сам чорт не разьбярэ, што там робіцца!

Пару тыдняў таму быў у горадзе Альбаны савецкі параплаў: бралі пшаніцу. Я-ж запрасіў трох у госьці: жонка паставіла на стол кансэрвы — сьвініну. А я спытаўся: «У вас кансэрвы ёсьць?» І адзін адказаў: «Што у вас, сьвініна? О, у нас і салаўіныя ёсьць!» —

Мы дзівімся: «Як-то, салаўіныя?» А ён сур'ёзна: «А так, ёсьць! — адзін салавей і два кані — вось і салаўіныя!»

Яны і нас запрасілі ў сваю сталовую і прапагандысты пачаў гарадзіць плот без калоў: «Наша мэта зрабіць камунізм па ўсім сьвеце». А я падняўся і кажу: «Ня вельмі гэта добра!» — «А чаму?» пытае ён. Дык я сказаў: «А дзе-ж тады будзеце купляць пшаніцу?» На тым і кончыўся мітынг, бо ўсе пачалі рагатаць.

Як брат пісаў, што шмат самакатаў (ровэраў), дык я спытаўся у лісьце: «Колькі і хто з маіх таварышаў маюць аўта-машыны?» Дык ён нічога — ані заікнецца.

*Х. Саматар*

---

# Вільня

32 гады таму я апошні раз разьвітаўся з нашым каханым беларускім горадам **Вільняй**! Сяньня летувісы прызналіся да Вільні дый зрабілі сваей сталіцай; а што-ж гэта ёсьць Летува, як не тая самая Беларусь?! Толькі розьніца у гаворцы, але ці мала краін на сьвеце з рознымі мовамі? А ў нашым Нью Ёрку дык і не пералічыць моваў-языкоў! Толькі за сталом — адзін язык да ежы, а да размовы вунь колькі!..

Нямала гарадоў на Беларусі, але больш няма, як Вільня — прыгожая, гасьцінная, зацішная і з цудоўнымі ўлетку гародамі-паркамі. А касьцёлаў з такімі вежамі, што здалёку выглядаюць, як у казцы, — дзе вы пабачыце?

Прышлі аднак новыя гаспадары і пазамыкалі вялікімі ключамі нашыя касьцёлы: толькі да некаторых іхні ключ не пасуе, як да Вострай Брамы, дзе штодзённа грамада вернікаў розных нацыяў сьпяшаюцца маліцца да Маці Божае ў сваей долі-нядолі. О, помню, як я ў 1939 разьвітваўся з Вострай Брамай, а няведамая законніца ўзлажыла мне на шыю і іншым жаўнерам мідалік Божае Маці, кажучы: «Хай-жа гэты мідалік сьцераже вас у вашай няпэўнай дарозе! Каб вы здаровымі вярнуліся да сваіх...»

На вялікі жаль, ня ўсе ўсьцерагліся! Адны згінулі ў войнах, другія і дасюль церпяць зьдзекі

і дагараюць. Дый іншыя, якім усьміхнулася шчасьце, забыліся аб гаротнай Бацькаўшчыне.

✳

У гадох 1937—38 здаралася мне нярэдка наведваць гасьцінны наш горад Вільню, можна сказаць там увесь горад быў адной гасьцініцай! І вось, напр., ідзём ад сьвятога Пятра і Паўла да кадэдры і зьвертаем у рэстаран «Заціша», бо і сапраўды было там вельмі зацішна. Між клёмбамі пастаўлены столікі, а прыслужвалі сымпатычныя прыгожыя дзяўчаткі з збеларушчанай польскай мовай. І там можна было наслухацца ў радыё расказаў ведамай «цёткі Альбіновай», якая выступала кожную нядзелю. Там мне няраз здаралася сябраваць з маладым жыдам (фам. Блёх), які быў сынам добрага бацькі. І казаў мне: «Мой бацька вельмі багаты: мае шмат вялікіх магазынаў, а мяне любіць больш чым усіх іншых дзяцей і дае грошаў гэтулькі, што й не магу іх расходаваць! А вы, беларускія вяскоўцы, незашмат багатыя . . .» Ну, цяпер адносіны між жыдамі і беларусамі адмяніліся, але шкода!..

Вільня разьмясьцілася пры ўпадзеньні ракі Вілейкі ў Вяльлю: тут цудоўныя закуткі для закаханых. На самым чубку гары стаяць тры белыя крыжы, як анёлы-вартаўнікі, што сьцерагуць горад: яны асьветлены электрычнымі лямпачкамі і на фоне начной заслоны магчыма было здалёку любавацца беларускай рэлігійнай культурай старой беларускай сталіцы. У падножжы гары раскінуты парк з прыгожымі кветкамі, дзе за малыя грошы магчыма было адпачываць, праходжвацца і нават натанцавацца пад музыку радыё. Тут-жа стаяў цудоўны помнікасьцёл-катэдра ў стылю клясычным. Я-ж ніколі ня мог мінуць яго, каб не зайсьці памаліцца, набраць духовай сілы, пацешыцца, пацікавіцца — такія там былі прыгожыя абразы высокага мастацтва; ізноў-жа, на жаль, катэдра цяпер нячынная. Ды былі тут іншыя вартасныя помнікі нашае старое культуры і гістарычныя пабудовы, як помніцца на вул. Завальнай, дзе мясьцілася беларуская друкарня і наагул беларускі асяродак.

✳

У пагодныя летнія дні віленчукі і іх госьці грамадна зьбіраліся на берагох Вяльлі, дзе парк даходзіў да ракі. А ў суботы і нядзелі фармальна пуставалі віленскія вуліцы, бо народ мандраваў на Зьвярынец, Панары, Антокаль ды на іншыя чароўныя падвіленсія лясы і пералескі з іх ажыўляючым сьвежым паветрам. А калі бывала сядзеш на аўтабус на Антокалі ля касьцёла сьв. Пятра, дык зара акажася сапраўды на лоне жывой прыроды, дзе ніякая траскучая машына не нарушыць глыбокага супакою, ані лятакі ня стурбуюць тваіх стурбаваных нэрваў. А Вяльля, «маці нашых крынічак», як казаў А. Міцкевіч, халодзіць гарачым летам усіх гасьцей без разбору і без даляраў! Ня так, як цяпер падмененыя беларусы на сваіх так. назв. «вікендах» — змардаваныя і ў нацягнутых нэрвах, замкнёныя ў машынах і ніколі ня пэўныя свайго жыцьця . . . «А ну-ж, думае, кагосьці пераеду або мяне нейкі весялун-джэтльмэн пераедзе на сваім кадзіляку?!». І толькі пачуецца шчасьлівым, прыехаўшы дамоў ды і то бывае расчараваньне, калі знайдзе вялізны непарадак, — брак тэлевізара, лепшых рэчаў і грошаў . . . Кажуць тады: «Быў з візытам містэр Клеен!» — ад прачысткі.

Давайце з Антокаля перейсьці на Кальварыйскую вуліцу — доўгую і няцікавую, дзе дамкі былі малаважныя і канчаліся цыганскімі будкамі, а пачыналася поле вайсковай муштроўкі — поле, якое называлі «Няма Бога» . . .

Едучы ў Каліварыю, бачыў я на гэтым полі, як задзёрысты капральчык муштраваў сваю каманду: «Раз-два-тры! Лева-права! . . .» Так тыя зганяныя жаўнерыкі б'юць сваімі падкаванымі ботамі бедную зямельку. — Дык і сапраўды, на гэтым полі «няма Бога!» — Так мне ўсё думалася ў дарозе да кальварыйскага касьцёла на вячорнае набажэнства. А ў касьцеле адбывалася нейкае сьвяточнае набажэнства і народу сабрана было уйма — і з Вільні і з ваколіц і бадай з далёкае Летувы!

Касьцёл невялікі, але пастаўлены высока і між высокімі хвоямі. Тут канчаліся «сьвятыя дарожкі», дзе разважаліся ўспаміны Хрыстовых пакутаў, суду, сьмерці і пахаваньня. Самы касьцёл мне ўдалося наведаць толькі пазьней — так многа было пілігрымаў! І трэ' было падымацца праз нязьлічоныя сходы, ці можа мне яны такімі — няпрывычнаму — паказаліся?

✳

*«Казюковы Кірмаш»*. Калі я на яго трапіў, ня ўмею згадаць, бо тады яшчэ трымаўся мамінай спадніцы. Недалёка ад Зялёнага маста, ля касьцёла сьв. Якуба, маецца вялікі пляц Лукішкі, дзе адбываецца кірмаш праз некалькі дзён ад для сьв. Казімера, — таму і называецца «кірмаш на Казюка». (Нягоднікі і гэты касьцёл зачынілі!). Прыгожы касьцёл, які вельмі любілі віленскія і прыездныя вернікі.

На кірмаш зьяжджалася многа далёкіх сялян: малыя конікі і малыя вазы, якія былі ўстаўляны ў рады. Коні адпрэжаны і прывязаны да воза, аглобкі зьвязаныя і паднятыя ўгору, як народная артылерыя І-ае вайны. Навезена бывала маса драўляных, саматканых, самадзельных вырабаў — усялякія дамовыя і гаспадарскія і гарадзкія прылады самадзельнага вясковага рэмясла і мастацтва і густу. Кажны мог знайсьці ўсё сабе неабходнае ў гаспадарстве і, старгаваўшыся, купіць або выменяць з другім. Торг, гармідар, біцьцё рук, згода і барышы . . .

На адмену пабажнейшыя ішлі ў касьцёл, дый ізонў вярталіся на торг, каб закончыць інтарэсы. Так нашыя бедныя селяне адпачывалі духова і практычна і упрыгожвалі сваё аднастайнае жыцьцё.

Так праз тры дні «Казюк» весяліў сэрцы віленскіх старажылаў і ўсялякіх гасьцей. А варочаліся пад свае нізенькія стрэхі — адны здаволеныя, а другія менш; але ніхто не наракаў, успамінаючы слаўную Вільню! Бо кажны быў вольны: жыў з сваей працы і не патрабаваў чужых рук, бо, як кажуць, «чужымі рукамі добра толькі жар заграбаць!« Ня было патрэбы аніякае «ашюрансы» ці «іншюрансы»: карміла і лячыла свая маці-зямелька.

Але што я сабе тады вымяняў, трымаючыся за матку? Я-ж так зацікавіўся штучкай, што паказваў адзін жыдок, як на палцы малпачка станавілася дагары нагамі — аж я, гледзячы ды ідучы, ўрэзаўся лбом у нейкі слуп! На шчасьце матка трымала мяне за руку, каб я на кірмашы ня згубіўся. I аж цяпер існуе той кірмашовы знак!

Незабытыя і здаровыя былі абычаі і традыцыі беларускіх людзей! Дык і не забывайма сваіх старых памятак, здарэньняў, бацькоў і дзядоў і усяе нашае дарагое Бацькаўшчыны!

Нью Ёрк.

1971, 1-га студня.

Боніфацы Прытыцкі.

---

*а. Я. Г.*

# Рай — першыя людзі

### ЕВА I ЛЮЦЫПАР

ЛЮЦЫПАР разам з Бэльзэбубам
Зьмяя апутаў: з ім узьбіўся
На райска дрэва й закруціўся —
Так рыхтавалась Еве згуба.

А Ева ўжо зьмяя шукала:
Вакол цікава паглядала —
Якраз убачыла на дрэве,
А ён сказаць штось хоча Еве.

О, Ева слухаць так гатова!
Якое-ж будзе яго слова?
(Была парайску — неадзета,
Зьмяіным вокам ўся агрэта . . .).

ЛЮЦЫПАР:
— Дзень добры, Ева! Ці ты ў стане
Мне адказаць на запытаньне? —

ЕВА:
— Пытайся! Я ўсё растлумачу,
Што знаю, думаю, што бачу:
Відаць, сакрэт у сэрцы маеш
I ад мяне ты ўсё хаваеш. —

ЛЮЦЫПАР:
— Чаму вас Бог так дзіўна школіць —
Ня хоча ў раі вам пазволіць —
Плады рваць з кажнага тут дрэва?
Скажы, мая ты каралева! —

ЕВА:
— Ты бачыш — справа вось якая:
Бог да ўсяго нас дапускае —
Бяром, што бачуць нашы вочы
I што нам трэба, колькі хочам. —

А толькі дрэва сярод раю
Бог востра нам забараняе,
Каб не чапаць,
I каб ня рваць
I каб ня есьці, —

Каб у грахі людзям ня ўлезьці! —
Пад карай вельмі страшнай сьмерці,
Бо мусіць мы маглі б памерці? . . . —

ЛЮЦЫПАР:
— Што кажаш? Гэта-ж быць ня можа!
Ах, надта дзіўна воля Божа . . .
Павер ты мне: я лепей знаю,
Бо я даўней ад вас у раі! —

Ня хоча Бог: магло-бы стацца —
Вам блізка з Богам зраўнавацца!
Каб вы пладоў тых скаштавалі,
«Дабро і Зло» — вы ўсё пазналі-б. —

Як хочучы, ці ўдзень, ці ўночы,
Вы рашчынілі-б свае вочы
На сьвет вялікі, на шырокі. —
А так .. вы ў раі — аднабокі:
Вам сьвет завязаны наскрозь —
Забараніў вам Бог — нябось!

«Дабро і Зло» — таёмны справы,
Каб іх пазнаць, трэ быць цікавым:
Трэ есьці з дрэба забароны —
Вам страх мяшае забабонны . . . —

Як Ева слухала, глядзела,
Дык плод сарваць ужо хацела —
Яшчэ баялася, трухлела,
А ейна сэрца ажно млела!

Плады былі ружова-белы, —
Цудоўныя, прыгожы, сьпелы:
На сонцы ярка зігацелі
І пахам, смакам прамянелі...

Якраз той плод яе зазводзіў,
Бо час абеду надыходзіў,
Калі яна ўсё рыхтавала
І фрукты ў раі абрывала.

Адам быў на прывале — ў «хаце». —
Падумаў: — Евы трэ шукаці! —
Яшчэ ніколі ня бывала,
Каб Ева час прабалбатала... —

І дзе-ж падзелася яна?
Куды пашла й чаму адна?...

Рука у Евы ня здрыгнула, —
Сумніву ў сэрцы не пачула:
Сарвала яблык той адважна! —
(Мо' так зрабіла-б і з вас кажна?)

І каштавала, смакавала, —
Здалёк на мужа ўсё ківала:
Прыйшоў Адам. Яна больш рвала,
Яму ахвотна падавала!...

Люцыпар у лісьцё схаваўся
І стуль цікава прыглядаўся,
Што людзі лёс свой парашылі —
Так шыбка й лёгка саграшылі!

«Адам і Ева, людзі-людзі!
Што з вамі і што з намі будзе?»

### АДАМ І ЕВА

Адам здалёку справу бачыць:
Бяжыць, пытае: — Што ўсё значыць?
Ці-ж ты была такая сьмела,
Што саграшыць адна пасьпела?! —

А Ева кажа: — Я ўсё знаю,
Чаму Бог даў нам страх у раі?
Каб зачыніць нам шлях-дарогу,
Каб мы не сталі роўны Богу...

На шчасьце, зьмей усё адзначыў:
«Дабро і Зло» мне растлумачыў,
Дык я дакладна разумею
І маю на цябе надзею... —

Адам граху яшчэ ня меўшы,
Таго-бо яблычка ня еўшы,
Ёй кажа: — Ах, мая ты міла!
Што ты зрабіла, што ўчыніла? —
Памрэш ты -згінеш, Бог з табою, —
Я-ж астануся сіратою... —

Адам дрыжыць — аж сэрца б'ецца!
«Як далей жыць?» — Сьляза аж льецца.

А Ева кажа: — Схамяніся!
Са мной «Дабром і Злом» дзяліся:
Сарві дый еж — хутчэй, адразу —
Шчасьлівы будзеш да адказу!

Мне зьмей казаў, што Бог ня хоча,
Как адчыніліс нашы вочы:
Як гэты яблык будзем есьці,
Адказ супольна будзем несьці
За ўсё «Дабро і Зло» на сьвеце —
І мы і зараз нашы дзеці. —
Нам будзе гладка шлях-дарога
Да неба проста — аж да Бога! —



Адам яшчэ-яшчэ баіцца:
На жонку глянуў, стаў дзівіцца,
Як яблык грызла, новы рвала —
Яму сардэчна падавала... —
Падумаў: — Што-ж? Яна ўсё знае,
Хоць яблык есьць, не паміраe! —

Аж галавой Адам матае,
Рукой той яблык адгартае:
Яшчэ загад ён помніць Бога,
Аднак ня кажа больш нічога.

ЗЬМЕЙ, што на дрэве тым абвіўся,
За сук найбольшы зачапіўся,
Што аж Адаму — бяз прынукі —
Плады ўжо самі лезьлі ў рукі!

Яшчэ Адам не папускаўся,
Але мягчэй супраціўляўся. —
Аж бачыць ён, што жонка-Ева
Уся у сьлёзах — каралева —
Маўчыць і толькі Зьмяя гладзіць
І кажа: — Муж мой мяне здрадзіць! —
Я жонкай вернаю была —
Ён хоча, каб я памярла!...

А хоць сьляза не праканала,
Аднак-жа волю заламала:
Раскісла сэрца, сам разьмяк
Адам — «пантофаль» небарак!...

Аж крыкнуў моцна: — Божа, Божа! —
Што-ж я раблю? Так быць ня можа...

Сарваў той яблык, адкусіў, —
Глынуў адразу, так як быў:
А ў горле стаў кусок — з бяды —
Ані туды, ані сюды! —

Аж сьлёзы сыпнулі з вачэй
Ды ў сэрцы стала гарачэй. —
А жонка ў страху, муж спужаўся,
А ЗЬМЕЙ-ЛЮЦЫПАР аж сьмяяўся!..

## БОЖЫ ПРЫСУД

Адам і Ева ўраз пазналі —
У грэх цяжкі так марна ўпалі:
Як глянулі, было агідна, —
Абое голыя — бясстыдна!
Схавацца беглі за кусты.
Там з дрэваў шморгалі лісты,
Каб хоць-бы чым такім прыкрыцца,
Бо кажны з іх чамусь баіцца,
Каб як на іхна гола цела
Чужое вока не глядзела!

І ў момант — з глумнай тэй фатыгі —
Адзежку мелі з лістоў хвігі...

*

Сам Бог у раі — пры нагодзе —
Праходзіў важна пры пагодзе
Дый клікаў голасам магутным —
Здалёку рэха было чутным:

— Адам, Адам! Ты дзе падзеўся?
Я-ж гаварыць з табою меўся... —

Адам з кустоў дзесь адазваўся:
— Я тут, ах, Божа! Я схаваўся, —
Мне надта стыдна, бо я — голы! —
Бог кажа: — Ты штось невясёлы. —
Я чую голас твой, што значыць?
Хачу цябе самога бачыць! —

Адам у новым «гарнітуры»
З кустоў вылазіць: ён пануры —
Адзеты сьмешна — дзіўна звонку,
А за руку трымае жонку...

Жанчына Бога так баіцца —
Лепш у зямлю ёй праваліцца! —
У сьлёзы і ў лісьцё адзета,
Сапраўды, бедная кабета!

Адам прад Богам апынуўся:
Здрантвеў,
Зьнямеў,
Хоць апрануўся...

— Чаму маўчыш? — Пытае Бог:
Я клікаў, ну, ці ты аглох?
Ты — «голы», хто табе сказаў?
Ты можа яблык той сарваў?
Што Я табе забараніў,
Каб ты навекі не грашыў!

Адам казаў: — Ну, што-ж? Я зьеў... —
(На Еву скоса паглядзеў),
—... бо гэта жонка, што Ты даў,
Мяне зьвяла — аж я сарваў! —

Бог Кажа: — Ты чаму зрабіла? —
А Ева кажа — з жалям дужа —
І крыва глянуўшы на мужа:
— Пракляты зьмей, нячыста сіла,
Мяне ён зьвёў, дык я зграшыла... —

*

ЗЬМЯЮ БОГ кажа, хітруну:
— Карысьць ты будзеш мець адну,
Што будзеш поўзаць, зямлю грызьці, —
Жанчына помсьціцца калісьці. —
Хоць ты ў пяту яе укусіш,
А сам навекі згінуць мусіш:
Нагу на лоб твой абапрэ
І пышну галаву сатрэ!,,,

З патомкаў прыйдзе інша «Ева» —
Праўдзіва сьвету Каралева:
Яна ў пакорным паслушэнстве
Паправіць евіна блазэнства...
Твой зуб атрутаю багаты,
А сам ты — гад, навек пракляты! —

*

Тады сказаў Бог жонцы-Еве:
— Ты перша саграшыла ў дрэве,
Сама спакусіла ты мужа:
Цярпець затое мусіш дужа. —
Радзіць дзяцей у страшным болі,
Жыцьцё праводзіць у няволі,
Бо пад уладай мужа станеш —
Аж сьмерць заплатаю дастанеш! —

Пасьля Адаму Бог сказаў:
Ты рукі сам сабе зьвязаў:
Ты жонку грэшную паслухаў —
Плод забаронены парухаў, —
Пракляў зямлю Я, дзе жыць будзеш
І ў поце хлеб ледзь-ледзь здабудзеш:
Зямля народзіць зельле й церні,
Пакуль за працу працант верне! —

З зямлі ты ўзяты чалавек,
Дык вернешся ў зямлю навек!
Бо ты ёсьць толькі парахно —
Ты ў сьмерці будзеш як яно:
Як не паслухаў Тварца-Бога, —
Зямля і гліна — больш нічога!... —

Заплакалі тут горка дужа
Адам і Ева, жонка з мужам!

# Прыказкі і прымаўкі

Аднаму ліецца, а другому на'т і ня капае.

Аднаму лепей толькі рыбу вудзіць ды да дзяўчыны заляцацца.

Аднаму надта, а другому нічога.

Аднаму чорту не ўгадзі, дык усе чортам глядзяць.

Аднаму шчасьце ракою плыве, а другі ў няшчасьці цэлы век жыве.

Ад напасьці можна прапасьці.

Адна пчала многа мёду не наносіць.

Адна рада добра, а дзьве яшчэ лепей.

Адна радасьць папу, што вясельле, што хаўтуры.

Адна сарока з куста, то другая на куст.

Адна сарочка на мне, а другая ў кубле на дне.

Адна хата і тая без дзьвярэй.

Ад нашых мысьляў яму галава баліць.

Адно вока бачыць далёка, а два — яшчэ далей.

Адно вока і тое спаць хоча.

Адно вока таўчэ, а другое меле.

Адно лечыць, а другое калечыць.

Адно маўчыць, а другое слухае.

Адно палена і ў печы не гарыць, а два і на ветры не гаснуць.

Адно ўмёрлы свабодны, адно разумны багаты.

# Сучасныя жарты

Прыехаў госьць з Савецкае Беларусі. Эмігрант яго пытае:

— Чаму Масква не пазваляе выдаваць у Беларусі каляндара?

— Таму, што ёсьць агульны — расейскі і годзі!

— А што шкодзіць Маскве, каб і беларусы мелі свой каляндар?

— Ну, шмат што шкодзіць: 1) Зараз беларусы захочуць пісаць аб асобнай пагодзе ў сваім краі. Але ж гэта немагчыма: гэта сэпаратызм і нацыяналізм. У Саюзе падаецца агульная пагода — камунальная дый інтэрнацыянальная.

2) Захочуць мець даты зацьменьняў сонца й месяца ў Беларусі . . . Таксама немагчыма! Бо і сонца, і зямля і месяц таксама належаць да Саюзу, а не да асобных рэспублікаў!

3) І ўсё іншае — гэтак сама. Калі падаваць для кажнай нацыі нешта асобнае, дык пачалася-б контррэвалюцыя! . . .

— Пачакай, Госьць! Але-ж — паводле канстытуцыі кажная рэспубліка можа нават і адзяліцца ад Саюзу, калі захоча. Ці-ж ня праўда?

Госьць кажа: — Праўда, што можа, але пісаць або гэтым ня можна.

— А чаму ня можна?

— Таму і ня можна, што жорстка забаронена! . . .

На тым размова і скончылася, бо эмігранты гэтага аніяк не зразумеюць . . .

# Чаму сумны?

Пасьля трэцяй чаркі Сымон пытае: — Чаму ты такі сумны? —

Лявон кажа: — Ат, лепш ня пытайся! Бо то — бачыш, я пераканаўся, што я зусім здурнеў. —

Сымон: — Калі ты здурнеў, дык вып'ем яшчэ па аднэй, — можа тады паразумнееш?

Выпілі, закусілі селядцом, памаўчалі; аднак Лявон быў яшчэ сумнейшы.

Сымон зноў пытае: — Ну, як цяпер? Можа — па аднэй? . . . —

Але Лявон пляснуў рукой па стале — аж уся хата задрыжэла, кажа: — Слухай, Сымон, і зарубі сябе на носе! Я табе болей не таварыш. —

Сымон: — Браток мой, чаму? Што сталася? . . .

Лявон: — Ці-ж я ня здурнеў? Бо я лічыў, што ты — разумны і добры чалавек, а тымчасам ты — ск . . . —

Сымон: — Пачакай, што ты гародзіш? Ды ты-ж яшчэ не п'яны . . . —

Лявон: — Не п'яны і больш такім ня буду! — Я праз цябе — ўжо поўны банкрот: мае фінансы захісталіся, здароўе папсаванае, у хаце згода змарнаваная і ўсе малітвы пазабываўся. А што я выйграў? Дык, Каб я так жыў, што ня пушчу цяба на парог . . . І мяне, як сабаку гані ад сябе! —

Так скончылася дурная дружба, а Лявон стаў чалавекам . . .

## АПОШНІЯ НЭКРАЛЁГІ

З апошніх вестак (зьбегліся даты): **ФРАНЦІШАК САВІЦКІ**, веку 77 гадоў, памёр у Амэрыцы (Нью Ёрк) дня 19 лістапада. Гэта быў наймалодшы з 5-ці дзядзькоў а. Я. Гэрмановіча, якія эмігравалі з мястэчка Гальшан, Віленскай губэрніі. Усе ўжо паўміралі, пакінуўшы сем'і, дзяцей і унукаў, толькі Францішак ня быў жанаты і памёр у доме старцаў.



Сьвятар а. **ВІТАЛІС ХАМЁНАК,** законнік Марыянін. Нарадзіўся дня 18. IV. 1889 г. у Віцебскай губэрніі. Уступіў у манастыр у гор. Друя 2 — VIII — 1925 г. Ведамы «Добры Пастыр», які сапраўды ахвярна, шчыра і гарача служыў Богу і людзям. Паміма ўсялякіх перашкодаў гаварыў да астатку казаньні па беларуску — аж пакуль яго з іншымі сьвятарамі польская паліцыя вывезла з Друі ў 1938 г. Тады быў змушаны жыць у цэнтральнай Польшчы. Падчас II вайны прабываў у Варшаве дый у самых баёх не збаяўся праходзіць між фронтаў, каб спавядаць хворых ці раненых. Быў абстрэляны няраз, меў пашкоджаную адзежу і сьвятарскі брэвіяр (малітваслоў) — перастрэляны, — але сам Віталіс ня быў нават лёгка ранены. Дзівіліся з яго жаўнеры — немцы і палякі, але ўсе яго шчадзілі. Памёр а. Віталіс у мяст. Скужэц, Седзецкага ваяводзтва, у кляштары аа. Марыянаў, і пахаваны на парахвіяльным магільніку, дзе быў таксама пахаваны малады сьвятар беларус Антон Падзява ў 1955 г. (брат а. Тамаша).



Дня 28 — XII — памёр у Лёндане наш суродзіч **ДАМІНІК АНІСЬКО,** (неспадзявана) ў Беларускім Доме. Пахаваньне 7-га студня 1972 г. Нарадзіўся ён 12-га студня 1888 г. у в. Слойнікі Сакольскага павету, Гродзенскай губэрніі. Шчасьліва прайшоў дзьве Сусьветныя войны, хоць быў афіцэрам у расейскай, а пасьля ў польскай арміі. Спакойны, чэсны чалавек, беларускі патрыёт і пісьменнік, верны хрысьціянін і дастойны грамадзянін, спагадлівы, працавіты і ахвярны. Ягоная аўтабіяграфія і апісаньне ягонай дзейнасьці будзе зьмешчана ў наступных нумарох «Божым Шляхам». У нашым часапісе Аніськo быў сталым супрацоўнікам.

Вечны супакой дай, Госпадзі, верным слугам Тваім — Францішку, а. Віталісу і Даמініку; а вечная сьветласьць няхай ім сьвеціць! Аман.

## ЗЬМЕСТ




Druck: „Logos“ GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14